7 красавіка 2017 | № 13 (527)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

Тэракт у піцерскім метро
стар. 9

ISSN 2218-2144









# Пра што дамовіліся?

## Сустрэча ў Пецярбургу ўсё ж выклікае больш пытанняў, чым адказаў



Сяргей ПУЛЬША

Вынікі сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі і Уладзіміра Пуціна пакінулі незалежніцкую супольнасць у роспачы: маўляў, беларускі правадыр «здае суверэнітэт» і «мяняе нафту на вайсковую базу ці расійскую вайсковую прысутнасць». Узгадваюцца вучэнні «Захад–2017» і шмат іншых панічных тэорый. Але ці варта панікаваць?

Насамрэч, мы нічога, акрамя агульных словаў, ад іх не пачулі. Лукашэнка падзякаваў Пуціну, што «пайшлі нам насустрач у плане рэфінансавання запазычанасцяў сёлета». Наконт нафтагазавай спрэчкі адзначыў: «Мы вырашылі гэтыя пытанні. Думаю, што на працягу 10 дзён нашы ўрады гэта ўсе фармалізуюць і ўвядуць нашы эканомікі ў нармальны рытм працы».

Пуцін жа дадаў: «Мы вызначылі схему, пры якой мы захоўваем нашы падыходы і збліжаем нашы пазіцыі па цэнах. Мы знайшлі магчымасць узаемных саступак і дамовіліся пра тое, як будзем працаваць у гэтай сферы не толькі ў гэтым годзе, 2018–2019 гадах». Ён прызнаўся, што паразмаўлялі кіраўнікі краін і пра санкцыі Рассельгаснагляду ў дачыненні да беларускіх вытворцаў прадуктаў харчавання. «Я папрасіў урад Расійскай Федэрацыі, каб на гэтым тыдні нашы спецыялісты выехалі ў Беларусь і прапрацавалі ўсе пытанні з калегамі на адпаведных прадпрыемствах, у дачыненні да якіх паўсталі нейкія сумневы з пункту гледжання захавання нашых фітасанітарных нормаў. Я думаю, што гэтыя пытанні, якія вырашаюцца ў ходзе практычнай сумеснай працы», — сказаў Пуцін.

Што з гэтых словаў вынікае?

Вынік першы: Расія ў гэтым годзе рэфінансуе нашы запазычанасці.

Вынік другі: нафтагазавыя пытанні «фармалізуюць» урады. Гэта, насамрэч, не вынік, а якраз наадварот. Віцэ-прэм'ер РФ Аркадзь Дварковіч ужо заявіў, што «будуць скарэктаваныя некаторыя міжурадавыя дакументы, якія датычацца ўзаемаадносін у сферы газу і нафты», Беларусь верне Расіі запазычанасць за газ — 726 мільёнаў долараў, пасля гэтага адновяцца пастаўкі нафты ў Сінявокую, і ўжо потым «Газпром» дасць зніжку ў выглядзе паніжальнага каэфіцыента да формулы, звязанай з цаной, пачынаючы з 2018 па канец 2019 года.

Выбачайце, але ўсё гэта — даўно вядомая пазіцыя расійскага боку, па якой ужо год не могуць дамовіцца. «Аплаціце за газ, і тады адновяцца пастаўкі нафты», — мы чуем ад расійскіх прэм'ераў з таго часу, як тая запазычанасць узнікла. І гэту запазычанасць Беларусь не прызнае ўвогуле.

Такі варыянт урэгулявання спрэчкі — гэта, дэ-факта, параза афіцыйнага Мінска. Бо наш урад жадае «роўнадаходных коштаў на газ згодна з міжурадавымі пагадненнямі». Калі міжурадавыя пагадненні будуць карэктавацца, то пакуль не вядома, у які бок. Гэтая карэктоўка, па-першае, наўрад ці ўкладзецца ў азначаны Лукашэнкам дзесяцідзённы тэрмін, а па-другое, дае глебу для далейшых спрэчак і непаразуменняў.

Таму сумнеўна, што Аляксандр Лукашэнка памяняў такую цьмяную дамоўленасць на суверэнітэт і прысутнасць расійскіх войскаў.

У той час, як Пуцін з Лукашэнкам абмяркоўвалі ў Санкт-Пецярбургу візіт спецыялістаў Рассельгаснагляду на беларускія заводы, Аляксандр Канюк — генеральны пракурор Беларусі — у Мінску заявіў журналістам, што кіраўнік Рассельгаснагляду Сяргей Данкверт персанальна нанёс шкоду Беларусі, ужо не кажучы пра работнікаў гэтага ведамства.




> **Такі варыянт урэгулявання спрэчкі — гэта, дэ-факта, параза афіцыйнага Мінска**

Выказванне генпракурора пра вінаватасць Данкверта не тое што да суда, але і да заканчэння следства, мы пакінем на яго юрыдычным сумленні. Але зараз спецыялістам Рассельгаснагляду не пазайздросціш. З аднаго боку, не ехаць у Беларусь — гэта аслухацца Пуціна. Калі ж ехаць — з вялікай доляй верагоднасці апынуцца пад крымінальнай справай. Там, у Рассельгаснаглядзе, добра памятаюць пра лёс Баўмгертнера. Крымінальная справа супраць яго ў выніку развалілася, але яна абышлася былому гендырэктару «Уралкалія» ў паўтара гады абмежавання волі, з іх два месяцы — за кратамі. Месяц у турме беларускага КДБ і месяц — у расійскім следчым ізалятары «Воднік». Наўрад ці кагосьці з расійскіх інспектараў радуе такая перспектыва.

Пра што яшчэ «дамовіліся» кіраўнікі дзяржаў? Пра пытанні бяспекі, супрацоўніцтва ў прамысловасці, касмічнай сферы, і «пацвердзілі сваё імкненне да ліпеня 2019-га стварыць асноватворныя правілы па стварэнні адзінага рынку электраэнергіі, а да канца гэтага года — па стварэнні адзінага рынку газу». То бок, гэта толькі словы, якія ўжо гучалі раней.

Такім чынам, канкрэтная дамоўленасць дасягнутая толькі адна: пра рэфінансаванне запазычанасцяў. І тое хлеб. А вось астатняе яшчэ пад пытаннем.

# Збіты знакаміты графіціст Алег Ларычаў

**«Дзіця-гігант», «Чалавек без твару» і «Дзяўчына ў вышыванцы» — гэтыя і многія іншыя графіці з'явіліся ў Мінску дзякуючы Алегу Ларычаву.**

Алег Ларычаў — сябра мастацкага праекту «Signal» і арганізатар фестывалю манументальнага стрыт-арту «Urban Myths». Яго партрэт быў на адным з білбордаў серыі «Я Мінск» (вядомай па першых словах «Гэта я...»). Ён прапагандуе сацыяльнае мастацтва, таму не выключана, што ўлады звязвалі з ім серыю нядаўніх работ, прысвечаных чыноўнікам і сілавікам.

Алег Ларычаў быў збіты невядомымі ў пад'ездзе свайго дома. Калі ён падышоў да пад'езда, дык убачыў каля дамафона дваіх мужчын, якія націскалі на кнопкі, але не маглі трапіць унутр. Ён папрасіў прапусціць яго, набраў нумар сваёй кватэры, яму адкрылі. Тут жа Алега збілі з ног і сталі біць па галаве. Ён страціў прытомнасць, паведамляе «Беларускі Партызан».

Пасля таго, як Алег ачуняў, вакол нікога не было. Ні грошы, ні тэлефон у яго не забралі. У яго была рассечана губа, раскрышаны зуб, пад вокам сіняк. Балела галава, ён губляў прытомнасць.

Паводле Ларычава, магчымым матывам нападу магло быць асвятленне акцый з постэрамі-выявамі чыноўнікаў. І тое, што быў абвешчаны збор сродкаў для валанцёраў на гэтыя акцыі.

# Што хаваецца за сімволікай?

Алесь КІРКЕІВЧ

**У межах салідарнасці з затрыманымі па «Справе патрыётаў» і кампаніяй «Патрыёт — не злачынца» сотні беларусаў змясцілі на сваіх аватарках у сацсетках знак «спарыш». Што ж ён значыць?**

Сімволіка, сапраўды, нетрывіяльная для беларускага нацыянальнага поля. З Пагоняй або крыжам Ефрасінні Полацкай усё значна прасцей. Спарыш — два перакрыжаваныя гачкі — у сваю чаргу, адсылае старадаўніх пластоў нашай гісторыі. Нехта нават паставіўся да яго з насцярогай, маўляў, а раптам тут нейкі «фашызм»?..

Паводле аднаго з лідараў «Белага легіёну» Сержука Чыслава, такая сімволіка ў легіянераў асацыявалася з «домам»:

«Гэта наш дом, — тлумачыць Чыслаў. — Падобны элемент у старажытнасці мацаваўся на страсе хаты як абярэг. Для легіёна гэта сімвал таго, што беларускі дом знаходзіцца пад абаронай. Каларыстыка — белы, чырвоны і чорны колеры — таксама абраная не выпадкова. Тлумачэнне такое: чалавек (чырвоны) сягае вышыняў (белы), моцна стоячы нагамі на глебе (чорны)».

Чыслаў дадае, што ў арганізацыі існаваў нават нагрудны знак — спарыш, які сябар арганізацыі атрымліваў як узнагароду. Такая традыцыя склалася яшчэ да ўвядзення «сталёвага берэту» (каб атрымаць апошні, трэба было здаць іспыт па фізічнай падрыхтоўцы ды гісторыі Беларусі).

Нагрудны спарыш, у сваю чаргу, мог атрымаць легіянер за працу на карысць арганізацыі і Радзімы — для гэтага фізічна не абавязкова было быць самым моцным, гэта азнака «Гонару і Духу». Узнагарода мела чатыры ступені.

З міфалогіі ды арнаментальнай традыцыі вынікае, што спарыш — сімвал пладнасці, распаўсюджаны як у славян, так і ў большасці іншых індаеўрапейцаў. Гэта працяг міфу пра багоў-блізнятаў, роднасны балтыйскаму Юмісу, старажытнаіндыйскім Ашвінам.

Паводле даследчыкаў, слова «спарыш» першапачаткова пазначала падвойнае зерне альбо падвойны колас, які трактаваўся як увасабленне ўдачы ды пладнасці. Нашы продкі давалі такія каласы каровам, каб тыя добра радзілі, з каласоў плялі вянкі, варылі «брацкае піва», адкусвалі каласое зубамі — на ўдачу. Корань слова хаваецца ў шматлікіх мовах: старажытнаславянскае «спорый» — «багаты, удалы, тлусты», лацінскае «prosper» — «шчаслівы, прыбытковы» і г.д.

Калі капаць яшчэ глыбей, дык можна выйсці і на сімволіку старажытных баявых калясніцаў з двума запрэжанымі канямі, і на перакрыжаваныя сякеры бронзавага ды жалезнага веку, і на скандынаўскую руну «Одал». Спарыш захаваўся ў беларускай ганчарнай традыцыі як два слоікі, змацаваныя паміж сабой, якія насілі касцам у поле. Арнаменты са спарышом пашыраныя ў беларускай вышыўцы, на рушніках ды паясах.

Насамрэч, спарыш бачыў кожны з нас: ён упісаны арнаментальную стужку на дзяржаўным сцягу Беларусі. У свой час менавіта гэты фактар дапамог падрыхтаваць эксперту з Акадэміі Навук заключэнне аб тым, што гэтая сімволіка ніколі не магла і не можа зараз лічыцца экстрэмісцкай. Спарыш — частка нашай агульнай нацыянальнай традыцыі, замацаваная навят у афіцыйнай сімволіцы.

# Спачатку вызваленне абаронцаў, а затым мемарыялізацыя Курапатаў

Марат ГАРАВЫ

**Адкрыты ліст грамадскасці да міністра культуры быў перададзены Барысу Святлову культуролагам Вацлавам Арэшкам, мастаком Аляксеем Марачкіным і аўтарам гэтага артыкулу падчас сустрэчы 5 красавіка.**

У лісце, між іншым, зазначаецца, што амаль трыццаць гадоў ушанаванне, упарадкаванне і ахова Курапатаў адбываліся дзякуючы прадстаўнікам і структурам беларускага грамадства. Прычым, як правіла, не толькі без дапамогі дзяржаўных органаў, але часта насуперак іх намаганням пашкодзіць памятнае месца і прынізіць яго значэнне. Дзякуючы грамадскім актывістам у Курапатах ужо паўстаў Народны мемарыял. Гэта дае грамадству падставы патрабаваць ад дзяржавы не толькі выконваць яе канстытуцыйны абавязак па ахове помніка, але і абавязкова лічыцца з грамадскай думкай ва ўсіх пытаннях, звязаных з любой дзейнасцю на тэрыторы Курапатаў і вакол іх.

Таму прапанаваныя дзяржаўнымі структурамі захады дзеля мемарыялізацыі на тэрыторыі матэрыяльнай нерухомай гісторычна-культурнай каштоўнасці «Месца згубы ахвяр палітычных рэпрэсій 30–40 гадоў ХХ стагоддзя ва ўрочышчы Курапаты» беларускае грамадства зразумее і падтрымае толькі пры выкананні ўмоў, што пацвердзілі б намер дзяржавы паразумецца з грамадствам.

Аўтары лісту прапануюць мінімум такіх умоў і спадзяюцца на ўзважаны і добразычлівы адказ адпаведных дзяржаўных структур, які зрабіў бы магчымай супрацу ва ўшанаванні памяці ахвяр савецкіх бальшавіцкіх рэпрэсій на тэрыторыі Беларусі.

1. Перш чым абвяшчаць конкурс на «найлепшы праект памятнага знаку ў Курапатах», дзяржава павінна вызваліць усіх абаронцаў Народнага мемарыялу і грамадзян, затрыманых паводле палітычных абвінавачванняў, бо немагчыма ўшаноўваць памяць ахвяр палітычных рэпрэсій у абстаноўцы палітычнага тэрору.

2. Ахоўная зона Курапатаў павінна быць вернутая, дзе гэта фізічна магчыма, да праекту 2003 года і захаваная назаўсёды, каб больш не дапусціць маніпуляцый ёю ў неадпаведных мэтах.

3. Мемарыялізацыя не можа адбывацца як абстрактны акт «ушанавання ўсіх ахвяраў ХХ стагоддзя». Дзяржава мае інфармацыю пра тое, хто і кім бязвінна забіты ў Курапатах і іншых падобных мясцінах. Дзяржава абавязаная адкрыць імёны курапацкіх ахвяраў, і толькі пасля гэтага мае маральнае права прапаноўваць захады для іх ушанавання.

4. Курапаты не належаць уладзе Рэспублікі Беларусі ці нейкім дзяржаўным альбо грамадскім структурам. Гэта святое месца належыць усяму беларускаму народу. Любы конкурс на праекты помнікаў ці на змену выгляду Курапатаў можа быць або грамадскім (пры магчымым спрыянні дзяржавы), або, калі дзяржава пажадае яго падтрымаць інстытуцыянальна, грамадска-дзяржаўным. Гэта азначае, што фармуляванне ўмоў творчага спаборніцтва і фармаванне яго нага журы павінна праходзіць з удзелам прадстаўнікоў грамадства і грамадскіх структур, найперш тых, хто мае досвед ва ўшанаванні і абароне Курапатаў і нашчадкаў ахвяр рэпрэсій, а ўсе этапы конкурсу павінны быць адкрытыя для абмеркавання беларускім грамадствам.

5. Падставовыя прынцыпы мемарыялізацыі Курапатаў былі сфармуляваныя беларускай грамадскасцю яшчэ 25 сакавіка 2002 года і пацверджаныя 14 мая 2016 года. Іх абмяркоўвалі і падтрымалі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, Таварыства беларускай школы, Беларуская асацыяцыя ахвяр палітычных рэпрэсій, Саюз беларускіх пісьменнікаў, суполка «Пагоня» Беларускага саюза мастакоў, Беларуская асацыяцыя журналістаў, прафсаюз РЭП і вялікі шэраг іншых арганізацый, ініцыятыў і дзеячаў. Правілы конкурсу і патрабаванні да ўдзельнікаў павінны не супярэчыць гэтым прынцыпам.

Аўтары звароту лічаць, што выкананне гэтых умоў стала б істотным крокам для грамадзянскага паразумення ў нашай краіне, адкрыла б магчымасць для многіх беларускіх творцаў прыняць удзел у далейшай мемарыялізацыі Курапатаў і гарантавала б дапамогу шырокіх колаў беларускай грамадскасці.

Сярод падпісантаў ліста — старшыня Беларускай асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій Зінаіда Тарасевіч, археолаг Валянціна Вяргей, грамадская дзячка Валянціна Свяцкая, мовазнаўца Вінцук Вячорка, старшыня прафсаюзу РЭП Генадзь Фядыніч, мастакі Мікола Купава, Генадзь Драздоў і Ігар Марачкін, бард Аляксей Галіч і грамадскі актывіст Алесь Макаў.

# Крамянецкі абскарджвае дзеянні супрацоўнікаў СІЗА №1

**Пасля свайго вызвалення актывіст «Маладога фронту» Зміцер Крамянецкі з дапамогай праваабаронцаў «Вясны» накіраваў скаргу начальніку СІЗА №1 на зняважлівае абыходжанне з боку супрацоўнікаў папраўчай установы.**

Зміцер Крамянецкі просіць праверыць дзеянні супрацоўнікаў СІЗА на Валадарскага і прыцягнуць да адказнасці вінаватых у пагаршэнні стану яго здароўя, а таксама тых, хто зняважліва ставіўся да яго і ўжываў у дачыненні да яго катаванні.

Па словах Зміцера, у першыя дні ён меў магчымасць адпачыць толькі некалькі гадзін.

«24 сакавіка, на другі дзень утрымання, мяне паднялі ў шэсць гадзін раніцы, нягледзячы на тое, што напярэдадні мяне змясцілі ў камеру толькі позна ноччу. Сядзець на ложку мне забаранілі. Увесь дзень у дачыненні да мяне праводзілі працэсуальныя дзеянні, затым быў допыт у КДБ, пасля якога мяне прывезлі назад у СІЗА ў дзве гадзіны ночы. На наступны дзень зноў у шэсць ранку прагучала каманда «пад'ём». На працягу ўсяго дня, седзячы на драўлянай лаве, я засынаў, а супрацоўнікі СІЗА пастаянна рабілі мне заўвагі».

З-за таго, што праваахоўныя органы не забяспечылі права на адпачынак, Зміцер напісаў скаргу на імя начальніка СІЗА №1 на ўмовы ўтрымання і аддаў яе канваіру. Той паабяцаў перадаць яе ў дзяжурную частку, аднак дагэтуль ніякіх адказаў на тую скаргу Зміцер не атрымаў.

У той дзень актывіст адчуў стомленасць, неўзабаве яго стан пагоршыўся, і ён пачаў губляць прытомнасць. Але нават гэта не стала падставай для дазволу адпачыць.

«Я звярнуўся па медыцынскую дапамогу. Праз паўгадзіны прыйшоў доктар, які замерыў ціск і тэмпературу цела. Доктар сказаў, што ціск павышаны, даў мне лекі і сказаў канваірам, што мне патрэбны пасцельны рэжым. Аднак канваіры адказалі, што гэта не прадугледжана правіламі ўтрымання ў СІЗА».

Актывіст «Маладога фронту» лічыць, што такія дзеянні адміністрацыі СІЗА пагражалі яго здароўю, а меры катавання з боку канваіраў прыніжалі яго чалавечую годнасць.

Зміцер Крамянецкі быў затрыманы 23 сакавіка ў Мінску супрацоўнікамі КДБ у якасці падазраванага па крымінальнай справе аб падрыхтоўцы «масавых беспарадкаў» (арт. 293 ч. 3 КК РБ). Дзевяць дзён ён правёў у СІЗА на Валадарскага, адкуль быў адпушчаны 1 красавіка без прад'яўлення абвінавачванняў.

spring96.org

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# На парозе санкцый

Сяргей САЛАЎЕЎ

**Маштабныя падзеі тыдня — тэракт у піцерскім метро, сустрэча Лукашэнкі і Пуціна, — засланяюць навіны, якія могуць істотна паўплываць на наша жыццё.**

Вось, напрыклад, група дэпутатаў Сейма Літвы зарэгістравала праект так званага «закону Магніцкага», які забараніў бы ўезд у краіну замежнікам, звязаным з буйнамаштабнай карупцыяй, адмываннем грошай ці парушэннямі правоў чалавека. У «чорны спіс» трапляюць не толькі расійскія чыноўнікі, але і сам кіраўнік Расіі, піша delfi.lt.

Цяперашнія палажэнні Закона аб прававым статусе іншаземцаў пра тое, што замежніку можа быць забаронены ўезд у Літоўскую Рэспубліку на тэрмін больш за пяць гадоў, калі ён уяўляе пагрозу для бяспекі дзяржавы або для грамадскага парадку ў дзяржаве, дапаўняюцца іншымі ўмовамі. Згодна з законапраектам, асоба трапляе ў «чорны спіс», калі маецца інфармацыя або сур'ёзная падстава падазраваць, што гэты чужынец датычны да буйнамаштабнай карупцыі або адмывання грошай, або да парушэнняў правоў чалавека, у выніку чаго асоба, у дачыненні да якой было здзейснена парушэнне правоў чалавека, памерла ці атрымала сур'ёзныя раненні, была неабгрунтавана асуджана па палітычных матывах, або для яе мелі месца іншыя сур'ёзныя негатыўныя наступствы.

Таксама падставай для забароны ўезду ў Літву для асобы было б тое, што яна можа ўяўляць пагрозу для бяспекі або грамадскага парадку не толькі Літвы, але і любой іншай дзяржавы — сябра Еўрасаюза або NATO. Гэтыя папраўкі зрабіла група кансерватараў, у тым ліку іх лідар Габрыэлюс Ландсбергіс, сацыял-дэмакрат, старшыня парламенцкага Камітэта па замежных справах Юозас Бернатоніс, «аграрый», старшыня Камітэта па нацыянальнай бяспецы і абароне Вітаўтас Бакас і іншыя.

Але гэты праект закону тычыцца не толькі грамадзян Расіі. «Устаноўкі праекта не накіраваныя на нейкую канкрэтную краіну — яны ўніверсальныя, як і правы чалавека, таму могуць прымяняцца ў дачыненні да любога замежніка, які выконвае, удзельнічае або дапамагае ажыццяўляць грубыя парушэнні правоў чалавека за мяжой ці ўдзельнічае ў злачынствах, звязаных з адмываннем грошай», — сказана ў тлумачэнні да законапраекту.

Фактычна, гэта азначае, што пад забарону наведвання Літвы падпадаюць і беларускія чыноўнікі, і Аляксандр Лукашэнка персанальна ў першую чаргу — калі гэты закон будзе прыняты. Бо знікненні Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Дзмітрыя Завадскага і Анатоля Красоўскага належным чынам не расследаваныя.

Пад забарону ўезду ў нашу паўночную суседку могуць трапіць сябры ЦВК, суддзі, якія выносілі прысуды, напрыклад, па апошніх падзеях, і тым самым «выконвалі, удзельнічалі або дапамагалі ажыццяўляць грубыя парушэнні правоў чалавека», супрацоўнікі міліцыі і АМАПу, і гэтак далей. Карацей, калі гэты законапраект будзе прыняты, мы атрымліваем не што іншае, як узнаўленне санкцый у дачыненні да беларускіх чыноўнікаў, якія паўсталі ў нас пасля падзей 2010 года.

**Устаноўкі праекта не накіраваныя на нейкую краіну — яны ўніверсальныя, і могуць прымяняцца да любога замежніка, які выконвае, удзельнічае або дапамагае ажыццяўляць парушэнні правоў чалавека**

Не варта забывацца яшчэ і на тое, што Літва — наш асноўны выхад да Балтыйскага мора. І невядома, як гэты законапраект у выпадку яго прыняцця адаб'ецца на тым жа «Беларускаліі» альбо Беларускай чыгунцы.

Карацей, гэты законапраект можа несці як палітычныя, так і асабістыя, і эканамічныя наступствы для беларускіх уладаў.

У той жа час Беларусь адзначае маленькую гадавіну. Год таму, 14 красавіка 2016-га, набыло моц палажэнне, згодна з якім замежныя пасылкі коштам больш за 22 еўра і вагой больш 10 кілаграмаў пачалі абкладацца мытнай пошлінай. У Дзяржаўным мытным камітэце з гэтай нагоды падбілі вынікі. Апынулася, што «пад мыту» трапіў толькі 1% пасылак з 12,7 мільёна міжнародных паштовых адпраўленняў.

Але за перавышэнне лімітаў на пасылкі з-за мяжы беларусы ў мінулым годзе заплацілі ў дзяржбюджэт не так ужо і мала — 2,4 мільёна рублёў, што па курсе Нацбанка складае каля 1,2 мільёна долараў.

«Часцей за ўсё перавышэнне нормы адбываецца па цане за кошт паступлення некалькіх пасылак адначасова аднаму адрасату на працягу каляндарнага месяца. У асноўным налічэнне мытных пошлін здзяйснялася мытнымі органамі на падставе звестак аб кошце тавараў, названым адпраўнікам у дакументах, якія суправаджаюць міжнародныя паштовыя адпраўленні», — расказалі ў ДМК.

Лепш бы яны маўчалі. Зараз беларусы будуць больш уважліва замаўляць тавары праз інтэрнэт на якім-небудзь Aliexpress, каб гэтыя пасылкі адна з другой «не перасякаліся».

А яшчэ мы даведаліся, куды ідуць гэтыя падаткі з пасылак, падатак «дармаедаў» і іншыя нашы плацяжы. Не, мы і так пабачылі гэта на свае вочы 25 сакавіка, калі па сталіцы праехаліся новыя вадамёты, бранявікі і джыпы з незразумелымі металічнымі канструкцыямі. Але зараз журналісты паглядзелі ў дакументы.

На працягу сакавіка Дэпартамент фінансаў і тылу МУС размясціў на сайце дзяржаўных закупак icetrade.by чатыры заяўкі на закупку новага транспарту. 13 сакавіка Галоўнае ўпраўленне камандуючага ўнутранымі войскамі апублікавала запыт на сем тыпаў аўтамабіляў. У гэтым спісе 11 легкавых аператыўных аўтамабіляў (Geely Emgrand 7 або аналаг), два мікрааўтобусы на 18 месцаў (сіняга колеру), чатыры МАЗа серыі 531605 для перавозкі асабовага складу, 5 патрульных УАЗаў, 5 аўтазакаў ГАЗ-2705, адзін грузавы МАЗ і адзін аўтамабіль для сапёрна-піратэхнічнай групы.

24 сакавіка была размешчана заяўка на 28 матацыклаў. Патрабаванне да транспартнага сродку — 4-тактавы рухавік аб'ёмам не менш 790 см3. 27 сакавіка МУС размясціла заяўку на спецаўтамабіль са сталым поўным прыводам.

У заяўцы ад 28 сакавіка — заказ на 10 легкавікоў. У дакументах удакладняецца, што, згодна з указам «Аб упарадкаванні набыцця службовых легкавых аўтамабіляў», кошт аўто не павінен перавышаць суму, эквівалентную 25 000 еўра з улікам мытных і іншых плацяжоў.

Аб'ём бюджэту для кожнага лота ў заяўках не пазначаны. Але самі можаце здагадацца, колькі ўсё гэта каштуе. Адных легкавікоў — мінімум на паўмільёна долараў. І гэта — нашы падаткі.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Максім Філіповіч



**Знакаміты гомельскі блогер адседзеў адміністрацыйныя арышты за ўдзел у акцыях «недармаедаў».**

У той жа час яго жонка атрымала паведамленне пра вызваленне Філіповіча ад падатку на дармаедства.

Філіповіч гэтак жа, як і першы гомельскі "дармаед" Аляксандр Сямёнаў, пачаў у судзе стратэгічную цяжбу наконт абскарджвання падатку на дармаедства. Цяпер яго прыватная скарга на вызначэнне суда аб непадведамаснасці дэкрэту судам знаходзіцца ў касацыі абласнога суда Гомельскай вобласці.

Максім Філіповіч больш за 20 сутак знаходзіўся ў ізалятары часовага ўтрымання. Яго судзілі за ўдзел у маршах недармаедаў у Гомелі і Брэсце. З кватэры бацькоў яго забіраў АМАП. Філіповіч трансляваў свой арышт у прамым эфіры.

«Максім — моцны чалавек. Усё, што ён рабіў, ён працягне рабіць далей», — упэўненая яго жонка.

## Віктар Казлоў



**Прадстаўнік Беларускага незалежнага прафсаюзу РЭП з Гомелю можа паўтарыць шлях некаторых мінскіх пратэстоўцаў.**

Раней выпадкі, калі глуханямы, па сведчаннях міліцыянтаў, «гучна лаяўся матам», а аднарукі пляскаў у далоні, сустракаліся толькі ў судах сталіцы.

Амапаўцы затрымалі Казлова раніцай 25 сакавіка ў вёсцы Цярэшкавічы, калі ён выпраўляўся ехаць у Гомель, каб удзельнічаць у «Маршы недармаедаў–2». Завезлі ў райаддзел, адтуль яго адправілі ў ізалятар, дзе ён двое сутак правёў за кратамі. Амапаўцы ў сваіх рапартах напісалі, што, маўляў, яны 25 сакавіка ахоўвалі грамадскі парадак, а Казлоў гучна брыдка лаяўся на вуліцы, на заўвагі не рэагаваў, спрабаваў уцячы, хапаўся за форму.

На судзе трое амапаўцаў адзін за адным пачалі распавядаць, як яны неслі службу па ахове грамадскага парадку ў аграгарадку Цярэшкавічы. Маўляў, ехалі па вуліцы з хуткасцю не больш за 20 кіламетраў, калі пачулі, што Казлоў «гучна крычаў, лаяўся матам». Яны спыніліся, папярэдзвалі, але Казлоў на заўвагі не рэагаваў.

Віктар Казлоў прадставіў суду даведкі з анкалагічнага цэнтру пра тое, што ў яго выдалена паўлёгкага. Ён патлумачыў, што наогул не можа крычаць і размаўляе ледзь не шэптам.

Але суд, як ні дзіўна, на гэтым не спыніўся. Суддзя абвясціла перапынак у працэсе, каб атрымаць адказ ад органаў унутраных спраў, на падставе якога распараджэння група амапаўцаў апынулася ўранку 25 сакавіка ў аграгарадку Цярэшкавічы, што за 20 кіламетраў ад Гомеля. Бачна, ёй не хочацца быць падобнай на мінскіх суддзяў, якія асуджалі за брыдкаслоўе глуханямога. Але, напэўна, давядзецца, бо справу яна не закрыла.

## Мяліта Станюта



**Славутая беларуская гімнастка, якая напачатку года заявіла пра завяршэнне сваёй спартовай кар'еры, як вядома, уклалася ў краму ювелірных вырабаў і біжутэрыі «Variety».**

Зараз Мяліту Станюту напаткаў першы камерцыйны поспех.

Станюта днямі прэзентавала ў краме кулон са сваім сілуэтам. «Для мяне гэта вельмі пазітыўная навіна, спадзяюся, як і для вас. І больш радасна ад таго, што пачынаецца здзяйсняцца мая мара», — звярнулася да наведвальнікаў гімнастка.

Прэзентацыю наведалі прыхільніцы Мяліты. Гімнастка раздавала аўтографы і фатаграфавалася з дзяўчатамі.

«Гэты быў вельмі доўгі шлях, але зараз я адчуваю сябе так, як быццам атрымала залаты медаль», — падзялілася ўражаннямі Мяліта. Пры распрацоўцы кулона гімнастка пільна сачыла за дробязямі, але вынікам вельмі задаволена.

«Ужо зараз мне пішуць з Іспаніі, Францыі, Расіі. Бацькі і іх маленькія гімнасткі жадаюць набыць кулон. Мы зрабілі 50 кулонаў, засталося дзесьці каля 12. У хуткім часе, думаю, мы запусцім яшчэ і інтэрнэт-краму, дзе таксама можна будзе яго набыць».

Мяліта адзначае, што гэта толькі пачатак, бо ў планах яшчэ зрабіць кулоны з іншымі гімнасткамі — Любоўю Чаркашынай, Інай Жукавай, Кацярынай Галкінай ды іншымі.

Кулон зроблены са срэбра і каштуе не так ужо і шмат — 55 рублёў.

# Андрэй Бандарэнка: «Зэк — бяспраўная істота»

Сяргей ПУЛЬША

**У Андрэя Бандарэнкі падчас нашай размовы ці не кожныя дзесяць хвілін званіў тэлефон. Яго турбавала дачка, якая таксама засумавала па тату. На свабоду Андрэй выйшаў сенсацыйна — яго апраўдалі па 411-м артыкуле Крымінальнага кодэксу «Злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы». Апраўдальных прысудаў па такім абвінавачванні амаль не здараецца. Выпадак Бандарэнкі — хіба ці не адзінкавы.**

***— Андрэй, тваё вызваленне было цалкам нечаканым. Чаму цябе ўсё ж выпусцілі?***

— Гэта, напэўна, самае складанае пытанне. У краіне, дзе ўсё пастаўлена з ног на галаву, рашэнні прымаюцца без удзелу логікі. Вызначыць прынцып дзеяння ўлады і падставы яе рашэнняў немагчыма.

Я на самай справе не ведаю, чаму мяне адпусцілі. Першая частка прысуду па справе была цалкам абвінаваўчай. Бачна было, што суддзя чытаў тое, што было напісана загадзя, з абвінаваўчым ухілам. Прычым, напісана было яўна без уліку паказанняў у судзе. А потым, ні з таго, ні з сяго — апраўдвае.

***— Можа, паўплывала тое, што праваабаронцы ў выпадку абвінавачвання гатовыя былі прызнаць цябе палітвязнем?***

— Не думаю. Для ўлады гэта значэння не мае. Адпускаць мяне — і садзіць дваццаць чалавек па справе «Белага легіёну» ў Мінску...

***— Але яны яшчэ не асуджаныя, і, адпаведна, не прызнаныя палітзняволенымі...***

— Яны ўжо палітзняволеныя. Людзі ўжо сёння пазбаўленыя волі. Мы што, павінны дачакацца, пакуль яны нейкі тэрмін правядуць за кратамі, потым, як часцяком бывае, атрымаюць столькі, колькі ўжо адсядзелі, і іх выпусцяць? І што? Нібыта яны палітвязні, а нібыта ўжо і не? На маю думку, праваабаронцам трэба правесці апгрэйд сістэмы прызнання грамадзян палітвязнямі. Я разумею, што ёсць міжнародныя стандарты такога прызнання, але ў кожнай сітуацыі павінен быць асобны падыход.

***— Цябе доўга «прасавалі» ў розных калоніях і турмах. Гэта норма для турэмнай сістэмы, альбо гэта выключна да цябе такое стаўленне?***

— Я скажу, што гэта стандартныя адносіны да палітвязняў. Яны былі і да мяне, і ў свой час да Дзядка, да Статкевіча... Я размаўляў з Мікалаем, у яго таксама дагляды праводзілі ў яго адсутнасць, сшыткі гарталі, падымалі яго запісы, калі ён быў на прагулках...

У мяне было тое ж самае. Ты ідзеш на прагулку — скрэпку адпаведным чынам кладзеш, сантыметры з аднаго боку, з другога да яе вымяраеш. Прыходзіш — а той скрэпкі ўвогуле няма! Не тое каб яе акуратна ў часе праверкі пасунулі, а ўвогуле выкінулі! Знаходзіш потым яе недзе пад ложкам... Яны сябе ў гэтым плане не стрымлівалі.

Што да праблемаў перапіскі — гэта элемент маральнага ціску. Ты чалавеку пішаш — ён табе не адказвае. І ты пачынаеш думаць, што ён спыніў перапіску. А ён піша табе, і думае, што гэта ты яму не адказваеш. І абодва бакі думаюць: «А калі ж ён мне напіша?»

У любым выпадку, усё ў месцах зняволення накіравана на маральнае падаўленне, на знішчэнне асобы, на тое, каб выбіць у цябе ўсё чалавечае. І асабліва гэта тычыцца палітычных.

***— Ты за кратамі быў не ўпершыню, дый «Платформа» займалася інспекцыяй месцаў зняволення. Ці змянілася там нешта — з асабістага досведу?***

— Змены ў калоніях адбываюцца знешнія. Робяцца нейкія рамонты, фарбуецца ўсё. Але што тычыцца ўнутранага стану, гэта як быў маральны ГУЛАГ у часы СССР, так і застаецца. «Зэк» — бяспраўная істота, асоба, якая нікога не цікавіць, не мае ніякіх правоў, у яго ёсць толькі абавязкі.

У калоніях і турмах няма ніякага папраўчага працэсу, гэта фармальнае ўтрымманне людзей пад вартай. Калі чалавек туды трапіў і будзе там «нармальна» сядзець, да яго не будзе прэтэнзій. Як толькі ты паспрабуеш нешта заявіць — мірнае жыццё скончана. Ты пазбавішся лістоў, перадач, званкоў, умоўна-датэрміновага вызвалення, на цябе заводзяць справу па 411-м артыкуле, могуць зрабіць што заўгодна.

Пра які папраўчы працэс можа ісці гаворка, калі ў нас на 2000 зняволеных і асобаў, якія ўтрымліваліся пад вартай у следчым ізалятары, было два псіхолагі? Вынік мы бачым: людзі, якія вызваляюцца ўмоўна-датэрмінова, тут жа здзяйсняюць новае злачынства і вяртаюцца назад.

У іх сёння няма нават сістэмы ацэнкі працы пенітэнцыярнай сістэмы. Як толькі з'явіўся аграмадны рэцыдыў па вяртанні тых, хто выйшаў на волю ўмоўна-датэрмінова, — дайшло да 40%, калі мне не схлусілі, — замест таго, каб вырашаць гэту праблему, удасканальваць механізмы вызначэння тых, хто выправіўся, яны проста перасталі адпраўляць людзей на датэрміновае вызваленне. Вось і рашэнне: «У нас будзе меншы рэцыдыў, бо ніхто не выходзіць па УДВ».

Змены ў калоніях тычацца побытавых умоў. Я быў прыемна здзіўлены, напрыклад, якасным харчаваннем. Іншым разам мне давалі кілбасу з кашай, у якой кілбасы было больш, чым кашы. Гатуюць — з тых прадуктаў, якія ім даступныя, — вельмі добра. Атрымліваецца, нібыта адкормліваюць на ўбой...




Але на побыт зняволеныя ніколі моцна не скардзіліся. Асноўныя прэтэнзіі — немагчымасць абскардзіць прысуд альбо спагнанне, стаўленне адміністрацыі да зняволеных. У гэтым плане не змянілася нічога.

***— Ад пачатку нашы праваабаронцы не прызналі цябе палітзняволеным. На тваю думку, чаму?***

— Сапраўды, чатыры гады я атрымаў не за тое, прыгожа ці непрыгожа я дзейнічаў, а па канкрэтным артыкуле Крымінальнага кодэкса. Асноўнае, што я хацеў ад праваабаронцаў, — не «палітзняволенасць». Я прасіў проста даць аналіз матэрыялаў маёй крымінальнай справы. Мне ў адказ пішуць: «Мы цябе ўсё роўна палітвязнем не прызнаем». Я пішу — ды не трэба мне гэта, дайце ацэнку крымінальнай справе! Мне высылаюць прынцыпы, паводле якіх вызначаюцца палітвязні. Я зноў пішу: не трэба мне гэта, проста вазьміце справу і прааналізуйце, наколькі законны прысуд... Мы размаўлялі як сляпы з глухім.

Выглядае камічна, але насамрэч гэта трагедыя для праваабароны. Калі праваабарончая арганізацыя нумар адзін, з вялікім аўтарытэтам у Еўропе, не ў стане правесці аналіз крымінальнай справы, то мы прыйдзем да сумных вынікаў. Урэшце палітвязнямі будуць прызнавацца па прынцыпе: «Плошча — дубінка — палітзняволены». А як толькі ўлада пачынае скарыстоўваць іншыя механізмы ціску, калі суд выносіць заведама неправасудны вырак — праваабаронцы «зліваюць» чалавека, і гэта няправільна.

Я не здымаю з сябе віну, не кажу, што мяне трэба абяліць. Але не толькі са мной тая праблема. Яна была і з Аўтуховічам, і з анархістамі... Калі падыходзіць да той жа «справы анархістаў» фармальна, то давайце выкажам і негатыўную ацэнку Майдану, бо там быў гвалт з абодвух бакоў.

**Неабходна сядаць за стол і нанова абмяркоўваць прынцыпы прызнання палітзняволенымі, паколькі тое, што адбываецца зараз, на маю думку, няправільна**

Я ўпэўнены, што неабходна сядаць за стол і нанова абмяркоўваць прынцыпы прызнання палітзняволенымі, паколькі тое, што адбываецца зараз, на маю думку, няправільна.

***— Ты збіраешся зноў заняцца праваабаронай?***

— У «Платформы» быў жалезны прынцып: «Мы сваіх не кідаем». Пакуль за кратамі застаецца Міхаіл Жамчужны, яго вызваленне — пытанне нумар адзін. Менавіта з гэтага я пачну вяртанне ў праваабарону, у якую я, шчыра кажучы, не вельмі хачу вяртацца.

Вельмі складана падабраць людзей, з якімі можна працаваць. Менавіта працаваць, а не займацца імітацыяй. Цяжка дамагацца нейкіх значных вынікаў, і занадта дорага гэта абыходзіцца.

Праваабарона — цяжкая праца, яна патрабуе шмат часу, шмат ведаў, неабходных для дасягнення вынікаў. Той жа прыклад з Ігарам Пцічкіным, якога забілі ў СІЗА. Мы ў свой час багата высілкаў надалі гэтай справе — і дзякуй «Вясне», малайцы, яны давялі яе да лагічнага фіналу. Мне было вельмі прыемна, што справу скончылі і ў судзе перамаглі.

***— І ўсё ж... Калі заўтра Жамчужны выйдзе на волю, «Платформа» спыніць сваё існаванне? Бандарэнка зоймецца сям'ёй, а справамі Пцічкіна, Барбашынскіх хай займаюцца іншыя?***

— Пасля «Платформы» ўзнікла некалькі праваабарончых арганізацый, якія займаюцца абаронай правоў зняволеных. Гэта і камітэт маці па 328-м артыкуле, і Мікалай Аўтуховіч, і іншыя... Гэта ўжо паказчык таго, што мы спрацавалі эфектыўна, далі дарогу іншым, паказалі, што гэта магчыма.

«Платформа» будзе існаваць, Бандарэнка не сыдзе ў сям'ю. Пытанне ў тым, ці будзе арганізацыя займацца толькі праваабаронай, альбо яна стане іншай, з іншымі абавязкамі.

Сёння я вяду перамовы з некаторымі праваабарончымі арганізацыямі пра стварэнне Асацыяцыі праваабаронцаў Беларусі, якая б аказвала комплексную падтрымку максімальнай колькасці людзей. Гэта спроба аб'яднаць праваабарончыя арганізацыі ў адну структуру, якая б дазволіла наладжваць камунікацыі паміж самімі праваабаронцамі і эфектыўна выбудоўваць працу.

Хутчэй за ўсё, буйныя праваабарончыя арганізацыі адмовяцца прымаць у гэтым удзел, таму што ўзнікне праблема лідарства і гэтак далей. А вось астатнія... Прычым, як я бачу гэтую Асацыяцыю, мы не будзем абмяжоўваць выключна праваабаронцамі. Мы будзем далучаць і тых, хто займаецца абаронай правоў чалавека «ў тым ліку», паміж іншымі справамі. Гэта, напрыклад, прафсаюз РЭП, альбо «Малады фронт». Калі людзі гатовыя ўдзельнічаць — мы гатовыя да супрацы.

У той жа час гэта дае магчымасць рабіць заявы не ад адзінак. Гэта будзе ўжо голас асацыяцыі, меркаванне пэўнай катэгорыі праваабарончай супольнасці.

***— Гэта толькі ідэя?***

— Гэта ідэя на стадыі абмеркавання. Мы ўжо паразмаўлялі з шэрагам праваабарончых структур. Для большасці, я мяркую, яна будзе прымальная, паколькі для самой арганізацыі прынцыпова нічога не зменіцца, але працэс яе працы павінен будзе змяніцца карэнным чынам у лепшы бок.

У нас шмат праваабарончых арганізацый, якія нібыта нешта робяць. Але такіх, чыя дзейнасць прыводзіць да канкрэтных вынікаў, вельмі мала. У нас абарона правоў чалавека ў большасці зводзіцца да таго, што мы кажам: у Беларусі парушаюцца правы чалавека, і гэта дрэнна. Так, гэта дрэнна, але павінна быць выбудаваная эфектыўная сістэма абароны гэтых правоў і іх узнаўлення. У Беларусі гэта надзвычай цяжка рабіць, але я інакш праваабарону проста не ўяўляю.

Мне патрэбны вынік. Я хачу бачыць шчаслівыя твары людзей, якія атрымалі ад мяне падтрымку. Я хачу атрымліваць асалоду ад званкоў Пцічкінай. Вось ён, вынік, які можна памацаць. А ад колькасці праманіторыных парушэнняў гэтага не будзе.

# Дэкрэт №3.
## Дэпутацкія развагі па выніках дзейнасці ў акрузе

Алена АНІСІМ,
дэпутат ПП па Стаўбцоўскай выбарчай акрузе №70

**Адным з самых вострых пытанняў апошніх месяцаў аказалася выкананне Дэкрэта №3. Ён у чарговы раз падзяліў беларускае грамадства на тых, хто падтрымлівае дзеянні ўлады, і на тых, хто супраць.**



Мы ўсе як грамадзяне краіны з'яўляемся падаткаплатнікамі і мусім сплочваць падаткі, калі маем прыбытак. Так робіцца ва ўсім свеце. Разам з тым ёсць пэўная група людзей, якія не хочуць выплочваць падаткі, нягледзячы на тое, што яны маюць даходы, часта немалыя, працуючы без афіцыйнага афармлення або наўпрост утойваючы сапраўдны памер прыбыткаў. Менавіта на іх найперш і павінна было быць накіравана дзеянне дэкрэта.

Але ёсць іншыя групы жыхароў, якія трапілі пад дзеянне дэкрэта, і чыя жыццёвая сітуацыя выглядае зусім інакш. Шмат людзей як у вялікіх гарадах, так і ў вясковых населеных пунктах не маюць магчымасці ўладкавацца на працу па спецыяльнасці з больш-менш адэкватным заробкам, спрабуюць шукаць працу самастойна ці перабіваюцца падпрацоўкамі. На біржы працы яны ў свой час не рэгістраваліся, бо не бачылі сэнсу, а сітуацыя на раённым узроўні дапаўняецца яшчэ і транспартнымі праблемамі — складанасцю (фінансавай у тым ліку) дабірацца да раённага цэнтра, каб рэгулярна адзначацца ці выконваць грамадскія працы.

Трэба назваць і традыцыйную для ўсіх грамадстваў катэгорыю так званых «хатніх гаспадынь». У некаторых сем'ях прыняты наступны парадак размеркавання абавязкаў: муж забяспечвае сям'ю фінансава, а жонка вядзе хатнюю гаспадарку, гадуе дзяцей, у тым ліку дапамагае ім у вучобе. Паводле дэкрэта яны павінны рабіць вызначаныя выплаты. Але ж мы забываемся на тое, што гэтыя жанчыны не карыстаюцца такім правам, як аплата бальнічнага, як правіла, дзеці ў такіх сем'ях хвараюць менш, а значыць, і тут ёсць эканомія бюджэтных сродкаў.

Неабходна асобна вылучыць яшчэ адну значную групу жыхароў, якія падпадаюць пад дзеянне дэкрэта. Гэты тыя, хто працуе зрэдзь часу, ці не працуе зусім, бо мае алкагольную (ці наркатычную) залежнасць.

Адносіны і падыходы да кожнай з гэтых (не ўсіх, а толькі асноўных) груп не могуць быць аднолькавымі.

Выяўляць людзей, якія не жадаюць аплочваць падаткі са сваіх даходаў, але карыстаюцца рознымі правамі, набываюць даволі дарагія рэчы, будуюць шыкоўныя дамы — найпершая задача падатковай інспекцыі. Так робіцца ва ўсім свеце. Мала таго, у перспектыве варта прадугледзець падатак на багацце, які ўвесці, напрыклад, калі прыбытак складае, умоўна кажучы, 1 мільён долараў. Гэта пытанне дыскусійнае, але ж сусветная практыка сведчыць менавіта пра такі падыход як найбольш адпаведны для ўстойлівага развіцця краіны і прадухілення вялікага разрыву паміж багатымі і беднымі.

Што датычыць іншых груп, то да іх павінна быць і іншае стаўленне. Яшчэ зусім нядаўна ў нашай краіне жанчына мела права не працаваць да 14-гадовага ўзросту дзіцяці. Зразумела, што выплатаў у ФСАН няма, адлічэнняў няма, таму пенсія з фонду ў перспектыве невялікая, хоць у жыцці можа быць па-рознаму. І бывае, што жанчына можа паспець рэалізавацца ў прафесійным плане і ў больш сталым узросце з высокім заробкам. Як на маю думку, дэкларуючы сацыяльную скіраванасць дзяржавы, варта для гэтай катэгорыі пакінуць менавіта такі парадак рэчаў: даць магчымасць тым, хто жадае, займацца хатняй гаспадаркай да дасягнення дзецьмі ўзросту 14 гадоў. Гэта норма ў свой час была ўведзена, бо менавіта да 14 гадоў маці давалі бальнічны па догляду за дзіцем.

Для тых, хто спрабуе, але не можа самастойна знайсці працу, трэба прадугледзець механізм самазанятасці, як гэта дзейнічае ў выпадку з рамеснікамі і фатографамі, што выплочваюць вызначаны фіксаваны падатак на права займацца дзейнасцю і аказваць адпаведныя паслугі. Ва ўмовах сучаснай эканамічнай сітуацыі і ў сілу асабістых абставін не кожны чалавек можа зарэгістраваць ІП, прафесійна весці бухгалтэрыю і іншую дакументацыю, але можа аказваць паслугі рознага характару: рамантаваць аўто, працаваць цырульнікам дома, дапамагаць у апрацоўцы зямельных надзелаў і г.д. Такіх людзей трэба заахвоціць урэгуляваць адносіны з дзяржавай прымальным даступным спосабам.

Датычна групы людзей, якія маюць алкагольную залежнасць. Гэта адно з самых балючых пытанняў як асабістага, так і агульнадзяржаўнага маштабу. Некалькі гадоў таму мой папярэднік у Палаце прадстаўнікоў Мікалай Іванчанка правёў у нашай выбарчай акрузе значную працу, звязаную з праблемай алкагалізацыі насельніцтва. Адбылося пасяджэнне круглага стала, вынікі былі агучаны ў Палацы прадстаўнікоў, сфармуляваны досыць радыкальныя прапановы ўраду краіны. На жаль, да парламенцкіх слуханняў па гэтай тэме справа не дайшла, незацікаўленыя чыноўнікі з розных ведамстваў пачалі блакаваць ініцыятыву, і ўсё засталося на тым жа месцы.




**Сацыяльны выбух, які даўно выспяваў і час ад часу пра сябе нагадваў, падштурхоўвае да асэнсавання таго, што трэба мяняць унутраную палітыку з мэтай забеспячэння элементарных правоў людзей, у тым ліку права на свабоду слова. Калі ўлада хоча весці дыялог, яна павінна навучыцца паважаць людзей, слухаць і чуць іх**

Сёння, у адпаведнасці з Дэкрэтам №3, шматлікія алкагольназалежныя людзі знаходзяцца ў спісе непадаткаплатнікаў, а верагоднасць іх паспяховага працаўладкавання і сацыялізацыі мізэрная. Мала таго, значная сума расходаў выпадае на абслугоўванне іх у медыцынскіх установах, дзяцей з такіх сем'яў забіраюць у прытулкі, што зноў жа цягне за сабой расходы з бюджэту, на глебе сацыяльнай неўладкаванасці адбываюцца крымінальныя здарэнні і г.д. Таму, на маю думку, з улікам дзейнасці Дэкрэта №3, трэба вярнуцца да згаданых вышэй дакументаў, якія былі напрацаваны ў плане дэалкагалізацыі насельніцтва нашай краіны. Фактычна, мы мусім прыняць агульнадзяржаўную праграму, каб спыніць працэс поўнага разбурэння вясковага побыту і ўцягнання моладзі ў багну алкагалізму. (Акцэнтую менавіта на вяскоўцах, бо ў апошнія гады пашыраецца тэндэнцыя да перасялення адзінокіх алкагольназалежных людзей з гарадоў менавіта ў вёскі, але праграма павінна распаўсюджвацца на гэтую мэтавую групу па ўсёй краіне). А пасля распрацоўкі апрабаваць яе варта ў нейкім асобным раёне з мэтай удасканалення.

Безумоўна, я не пералічыла ўсе магчымыя варыянты жыццёвых сітуацый: ёсць людзі, якія ажыццяўляюць догляд за састарэлымі бацькамі ці адзінокімі сваякамі, за паўналетнімі дзецьмі-інвалідамі і гэтак далей, але не афармлялі гэта афіцыйна. І гэта трэба прадугледзець у адпаведным заканадаўчым акце, маючы сёння досвед яго прымянення.

Зразумела, што можна было б пазбегнуць непатрэбнай канфрантацыі ў грамадстве, калі б у свой час апрабавалі дзеянне Дэкрэта №3 у адным ці некалькіх раёнах. А пасля ўнеслі неабходныя карэктывы. Зробленага не вернеш, але высновы рабіць трэба, каб не паўтараць такіх памылак і надалей.

Што яшчэ хачу адзначыць з непасрэднага ўдзелу ў дзейнасці камісіі па вырашэнні пытанняў, звязаных з выкананнем Дэкрэта №3, — значную працу па ўдасканаленні базы звестак па грамадзянах, удакладненні іх месцазнаходжання і фактычнай ацэнцы іх маёмаснага становішча, якую праводзяць дэпутаты мясцовых Саветаў сумесна з прадстаўнікамі выканаўчай улады. Другое, што варта прызнаць як станоўчы факт: чальцы камісіі (не ўсе, але большасць) становяцца на бок грамадзян і вызваляюць ад выплаты збору, калі ёсць заява і любая нагода аб прызнанні цяжкіх жыццёвых абставін. Тым самым, менавіта на мясцовым узроўні можа адбыцца аднаўленне даверу да ўлады, калі ёсць разуменне сітуацыі, падтрымка людзей, дапамога ў іх сацыялізацыі і працаўладкаванні. Калі ж падчас гэтай справы будуць адбывацца несправядлівыя рэчы, кшталту пратэкцыянізму ці неабгрунтаванага ўціску, то гэта толькі паглыбіць тую расколіну, якая сёння назіраецца ў нашым грамадстве.

Ёсць шмат людзей, хто выступае за неабходнасць гэтага заканадаўчага акта, але з пэўнымі дапрацоўкамі. Гэта прадстаўнікі мясцовай улады і дэпутаты ўсіх узроўняў, якія сутыкнуліся з практыкай яго выканання. Асноўная праблема, якая зварухнула грамадства — непрадуманасць механізма яго прымянення. Заканадаўчы акт павінен быць адназначным, каб на месцы прадстаўнікі органаў мясцовай улады не ламалі сабе галавы, хто падпадае пад дзеянне дакумента, каго вызваляць ад выплаты, якім чынам спаганяць выплаты з розных катэгорый грамадства і гэтак далей. Гэта ўсё павінна быць выразна абазначана. Перш чым накіроўваць лісты з патрабаваннем аплаціць падатак, варта было запрасіць людзей для гутаркі ў падатковую інспекцыю і высветліць усе абставіны.

У цэлым сацыяльны выбух, які даўно выспяваў і час ад часу пра сябе нагадваў, падштурхоўвае да асэнсавання таго, што трэба мяняць унутраную палітыку з мэтай забеспячэння элементарных правоў людзей, у тым ліку права на свабоду слова. Гэта тэма для далейшых развагаў і абмеркаванняў на ўсіх узроўнях: ад мясцовага да агульнадзяржаўнага. Калі ўлада хоча весці дыялог, яна павінна навучыцца паважаць людзей, слухаць і чуць іх.

Ксенія ЛІЦВІНОЎСКАЯ

**Чарга на Акрэсціна не заканчваецца. Міліцыянт у чарговы раз адкрывае вароты для прыёму перадач, акідвае позіркам чаргу і пытаецца: «Гэта ўсе сюды?!» Народ актыўна адгукаецца і ківае галовамі. Ахоўнік уздыхае і з заклапочаным выглядам прапускае чарговага наведніка.**

**«Як прымаюць перадачы? Адмовы ёсць?» — звяртаюся да дзяўчат, якія прыйшлі кампаніяй. «Калі як», — адказваюць яны. «Ад чаго гэта залежыць?» — «Ды ад чаго заўгодна! Ад іх настрою, ад месцазнаходжання Месяца!»**

**Звычайны дзень ля сцен мінскіх спецустановаў. І некалькі расповедаў тых, каго цяпер лёс злучае па гэты бок Акрэсціна.**



Фота Уладзіслава Рубанава

# Прастаяла пад дажджом дзве гадзіны «мордай у сцяну»

**«Змяніла меркаванне на супрацьлеглае»**

Валянціна, маці Рамана Мішчанкі, прыехала з Магілёва. Яе сын, якому 25 гадоў, упершыню трапіў пад арышт — 15 сутак.

***— За што затрымалі?***

— А вось ні за што. Яны проста ішлі з таварышам (ёсць затрыманне на відэа, нам потым прыслалі). Выйшлі з метро — іх адразу затрымалі. Але артыкул выставілі — абалдзець! — непадпарадкаванне міліцыі. І яшчэ — ці то за брыдкаслоўе, ці то за хуліганства. Яны нічога не рабілі, іх нават не цягнулі, не валаклі. Зараз я пакажу сына (паказвае на тэлефоне. — НЧ). Ён не супраціўляўся, не брыдкасловіў і не хуліганіў. Гэта абсурд. Ён гэтага ніколі не зробіць, ён хацеў дайсці да мітынгу. А яму нават не далі дайсці. У 14.12 ужо з аўтазаку пазваніў.

***— А чаму вырашыў прыехаць на акцыю?***

— Хацеў удзельнічаць, дастала ўсё. Працы знайсці нельга. Ён у 2015 годзе, калі гэты дэкрэт (аб дармаедстве. — НЧ) увялі, хацеў у калгас паехаць. Усе калгасы былі занятыя — усе. Далі на біржы два аркушы А4, мы пазванілі ў кожнае месца. Нідзе нічога няма. Ён па прафесіі апрацоўшчык, але па зроку яго не бяруць. Яму прапанавалі ў 2015 годзе перавучыцца на сантэхніка, ён пачаў праходзіць медкамісію, і там таксама па зроку не прайшоў. Калі вучыўся па спецыяльнасці — не было абмежаванняў па зроку. Увялі потым. Нейкі час працаваў па прафесіі. З-за абмежавання зараз не можа працаваць.

***— Не адгаворвалі сына ехаць на акцыю?***

— Не адгаворвала. Я яму проста казала: «Цябе забяруць». Я ведала... Я сны бачыла нядобрыя. Я да гэтага была маральна гатова. Але відэа з яго затрыманнем да канца не магу глядзець — перапыняю.

***— Як вы ўспрынялі разгон на Дзень Волі?***









— Я наогул у шоку, як паступілі з людзьмі. Я не вельмі добрага меркавання пра нашу ўладу, але я такога не чакала. Калі дзядулю з кіёчкам учапявых, ці колькі іх там, валакуць. Ён крычыць: «Я ж без кійка хадзіць не магу!» А ім пофіг. Гэта наогул жах!

Яшчэ адна бабуля-пенсіянерка распавяла: «Ішла ў краму. Ніколі, кажа, ні ў чым не ўдзельнічала. Выйшла з крамы. Забралі. Прастаяла пад дажджом дзве гадзіны «мордай у сцяну» (ну я так разумею, гэта не яе выраз). Кажа, пасля гэтага мне іх выбачэнні не патрэбны. Цяпер я пайду і мае сваякі».

Ёсць адна знаёмая, якая была лукашысткай да таго, як ім прыйшоў гэты «ліст шчасця». І яна памяняла рэзка меркаванне. Я сама за ўладу вельмі «за» ніколі не была, але і вельмі супраць не выступала. Раней, у 2010-м, калі я глядзела, як адбываліся пратэсты, тады ж я зусім не ў курсе была — я тады наогул лічыла, што правільна ўлады зрабілі. Ну але за гэты час так змянілася меркаванне на супрацьлеглае. Я хадзіла ў Магілёве на мітынгі, праўда, на апошнім мяне не было — захварэла. Сын казаў: «Паехалі!» Гэта што мы захварэлі моцна. А так мы б можа з дачкой і прыехалі ў Мінск разам з сынам!

**Я сама вельмі «за» ўладу ніколі не была, але і супраць не выступала. У 2010-м, калі я глядзела, як адбываліся пратэсты, я наогул лічыла, што правільна ўлады зрабілі. Але за гэты час змянілася меркаванне на супрацьлеглае**

**«Гэта проста салідарнасць»**

Купка дзяўчат і хлопец. Іх знаёмых пахапалі яшчэ да 25 сакавіка — падчас зачысткі напярэдадні акцыі. І адправілі ў Жодзіна, бо мінскія камеры вызвалялі для прыёму навабранцаў Дня Волі.

— Нічога не здзівіла, — кажуць дзяўчаты. — Шакаваныя, але мы чакалі, што такое будзе. Людзей затрымлівалі прэвентыўна. Колькі чалавек затрымалі да Дня Волі! Мелася на ўвазе, што падчас самой акцыі будзе яшчэ больш жорстка. Усё чакана.

Частку іх сяброў ужо вызвалілі ў Жодзіне. Маладзёны абураюцца:

— Агідна тое, што калі іх вызваляюць, іх цішком вывозяць на станцыі. Проста на чыгуначных станцыях кідаюць дзесьці — і ўсё. Іх проста паскудна раскідваюць. Каб перашкодзіць родным і сябрам сустрэць іх — з кветкамі, цукеркамі.

Бацькі званяць раніцай. Ім кажуць, што будуць выпускаць па часе пратакола. Па пратаколу іх не выпускаюць у выніку. Іх выпускаюць раней гадзіны на дзве, ну там па-рознаму — гадзіна, дзве. Аднаго на адной станцыі высаджваюць, другога на іншай. Бацькі прыязджаюць, у гэты час ім дзеці тэлефануюць з электрычак, кажуць, што яны ўжо едуць у Мінск. Званяць альбо з незнаёмых нумароў, альбо са сваіх тэлефонаў з падсаджанымі батарэямі, і потым робяцца недасяжнымі. Усё. Ты едзеш, ходзіш, шукаеш, дзе «потеряшкі» гэтыя з пакетамі.

— Тут ужо не нашы, тут ужо незнаёмыя, проста іншыя людзі застаюцца, — кажа хлопец. — Мы проста прыносім ім перадачы. Гэта проста салідарнасць.

**«Я 10 гадоў не жыў у Беларусі. Вярнуўся на сваю галаву!»**

Хлопец Аляксей са сваім стрыечным братам прынёс перадачы «новым знаёмым». А пазнаёміўся ён з імі тут жа, на Акрэсціна.

— Выходныя правялі тут, — паказвае на ізалятар Аляксей. — Вось акурат у гэтым будынку. Пазнаёміліся ў камеры. Спачатку ў РУУСе, а потым ужо тут. Максім Вінярскі, гэта актывіст вядомы, і Павел Ермалаеў, гэта маскоўскі анархіст, таксама быў са мной у адной камеры. Яму 21 год, хлопец трапіў ва ўвесь гэты замес. Кажа, у Маскве такога ніколі не было. Пасябравалі з Вінярскім, цудоўны хлопец. Добрая кампанія была.

У камеры было 5 чалавек, хлопцам далі суткі. Вінярскаму — 8, расіяніну — 5. Аляксей абышоўся штрафам — 25 базавых. «Можа хацелі б і ўсіх запакаваць. Але проста няма куды падзець людзей. Таму ім, на жаль, камусьці даводзіцца даваць і штрафы, — кажа суразмоўца. — Я ім на дваіх закідваю перадачы, а яны ўжо там самі на ўсіх размяркуюць. Галоўнае туды ўсё гэта перадаць».

***— А як вы апынуліся на акцыі?***

— Я наогул шнур ішоў рамантаваць. Музычны. Не ведаю, як яго яшчэ назваць, — кабель. Проста паяюць там недалёка ад плошчы Перамогі. Мяне на перакрыжаванні, дзе Казлова — Незалежнасці, акурат з прыпынку проста «вынеслі».

Тварам наперад. Там ужо не было маршу. Ніхто ўжо не скандаваў, не выкрыкваў нічога. Людзі проста ішлі. Перагарадзілі дарогу тры аўтазакі, проста за секунду ўсё стала чорнае ад «касманаўтаў». І ўсіх панеслі запар. Вось і ўсё ўласна. А потым ужо чаго ім расказваць, шнур — не шнур. Ужо ж нікога нічога не цікавіць.

***— Настрой у вас вясёлы, я гляджу.***

— Ну дык а што сумаваць? Я на працу яшчэ ў панядзелак паспеў. Адразу з «Дома правасуддзя» (!). Так што ўсё нармальна. Вясёлыя выходныя.

Рэчы з намі ў суд не прывезлі. Суд скончыўся, адпусцілі — ні рамня, ні бабла — рэчы ў РУУСе. Усё, бывайце. Як ехаць, хлопцы? Як хочаце. А як ты туды дабярэшся? Выкідваюць — і ўсё. Што хочаш, тое і рабі, — і без шнуркоў яшчэ.

Мне распавялі, што пасля затрымання ў міліцыі тэлефон проста не адказваў. Ні ў адным РУУС Мінска. Не тое што інфармацыі не давалі, яны слухаўку не паднімаюць!

Дзяўчына, якая стаяла ў чарзе, параіла:

— Трэба было званіць у Бюро рэгістрацыі няшчасных выпадкаў. Пакінуць заяву — знік чалавек. Мы так пару чалавек знайшлі. Яны не суперхутка гэта робяць, але ў выніку адказваюць. Мы званілі ў 10–11 вечара, і нам раніцай перазванілі. І сказалі, дзе нашы сябры і што як. Ну, што здарылася, мы і так ведалі. Нам было важна, дзе яны. Яны знаходзіліся ўжо тут, на Акрэсціна.

Гэта інфармацыю выклікала ў чарзе ажыўленне. Вердыкт: «Трэба абавязкова ўзяць на заметку!»

***— На вашых вачах збівалі людзей? — працягваем гутарку з Аляксеем.***

— Так, жорстка. Атрымалася, што я быў першым у аўтазаку. І потым усіх я ўжо бачыў — крыкі, оры, удары, дубіны — усё як мае быць. Аўтазак быў забіты да канца. Нас было 6 чалавек у адным адсеку, а потым там стаканы-адзіночкі — па два чалавекі запіхвалі. Так жа везлі нас і на суд. Раніцай усіх нас запіхнулі — і 45 хвілін мы там сядзелі. У адзіночцы са мной быў сталы мужчына пад 60 гадоў. Сталы — не сталы — гэта ім наогул усё роўна. Там жа бабулек хапалі, дзеда з кійком.

Нас завезлі ў РУУС. З намі быў англічанін. Каля мяне стаяў ля сцяны. Я перакладаў.

***— Дык гэта вас паўсюль цытуе Філіп Уорык?! Ён распавядае пра маладога чалавека, які параіў выконваць каманды і потым распавесці свету, што адбываецца ў Беларусі!***

— Я пачуў англійскую мову яшчэ ў аўтазаку, калі пакавалі. Калі высадзілі з аўтазакаў, усё адбывалася ва ўнутраным двары РУУС. Я яму кажу: крыху пасядзі і потым свету раскажаш пра нашу «дзвіжуху». Уяўляеце, якія ў яго вочы былі! Ён у мяне вачыма проста ўчапіўся, як за апошнюю магчымасць! Седзячы на мокрым асфальце, выцяты галавой аб сцяну, ён быў у поўнай прастрацыі.



Філіп Уорык

Яго там, канечне, прасавалі. Пісалі потым у інтэрнэце, са словаў журналіста, што гэта быў менавіта начальнік РУУС! А англічанін жа не разумеў, хто гэта.

Канкрэтна начальнік жорсткі. Бачна была непрыязь да замежніка. За шыю схапіў, галавой аб сцяну ўдарыў. Потым проста пасадзіў, ужо быў дождж, снег, усё мокрае. І ён сядзеў хвілін 15, пакуль усіх абшуквалі. І мы з ім крыху перашэпталіся. Уласна і ўсё. Потым яго ўвялі. Я яго ўжо не бачыў болей.

Кажуць, што ён з Данбасу прыехаў. Уяўляеце: на Данбас (!) адсюль бягом!

***— Ці ўдасца запужаць людзей?***

— Не, ужо ўсё, ужо не. Вы не ўяўляеце, як людзі рэагавалі. Ніхто там не баяўся. 44 чалавекі было ў РУУС з двух аўтазакаў.

Дарэчы, быў таксама беларускі пісьменнік з бародкай у РУУС. Там на міліцыянтаў ён наогул кідаўся самаахвярна. Вось толькі прозвішча яго я не запомніў, на жаль. На беларускай мове размаўляў, вершы чытаў, усё па поўнай праграме.

Затрымлівалі «касманаўты» гэты чорныя. У іх жа маскі пад шлемамі. Мала таго, што ў іх шлем, яшчэ і маска. Хто каго баіцца? А ў РУУС прымалі міліцыянты. Уяўляеце залу пасяджэнняў? Яны сядзелі перад намі ў «прэзідыуме». І мы сядзім перад імі: «Што мы тут робім? Патлумачце хоць што-небудзь!» Маўчаць, вочы ўніз. Гэта былі якраз міліцыянты ў форме.

Адзін хлопец устаў і перасеў на наступны шэраг. Міліцыянт налятае на яго: «Там сядзець, а не тут!» — «Вы што смеяцеся, куды, тут і так зашмат людзей!» — «Не, вось тут ты будзеш сядзець!» І накідваецца на хлопца.

І тут барадач не вытрымаў, падбег бараніць. Рэальна, думаю, зараз тут пачнецца переварот! Гэта наогул! Дзед бравы атрымаў там дубіналам пару разоў. Яго скруцілі. Самае дзіўнае, што яго вось адпусцілі! Дзеда, які наогул кляў іх так, што зямля ў іх пад нагамі гарэла!

Важная тэма ў фэйсбуку праскочыла. Амапаўцы, «касманаўты» не рэагуюць на выкрыкі «Фашысты!», яны нават радуюцца. Вось на «калгаснікаў» яны рэальна крыўдзяцца. Акурат у кропку болевую траплянне. Гэта іх слабае месца.

***— Ёсць сэнс ладзіць іншыя акцыі?***

— Толькі добра арганізаваныя. На гэтым павінен быць акцэнт. Не проста акцыя дзеля акцыі, а каб усё было прадумана.

Першы раз трапіў на Акрэсціна. Я наогул 10 гадоў не жыў у краіне. Вярнуўся вось на сваю галаву. Дык у нас таксама ў камеры быў адзін хлопец, 42 гады, мінчанін. Кажа: я чатыры гады ў Швейцарыі жыў і працаваў, два гады ў Аўстрыі. Ён усе гарады ведаў. Чэмпіён камеры па гарадах. Разумееце, там няма неабыякавых людзей. Якраз усе інфармаваныя, усе ўсё ведаюць, усё разумеюць. На іх не дзейнічае прапаганда, у іх свабодныя, чыстыя розумы.




Леанід Кулакоў

## «Ніколі не сумнявайся ў нягодніках»

Жонка Андрэя Шарэнды — Паліна, прыехала з Брэста. Мужа асудзілі на 15 сутак.



Андрэй Шарэнда

— Па спісах даведалася, што затрымалі, — паведаміла Паліна. — І так было зразумела, што затрымаюць. Адзін адказ на ўсе праблемы. За 20 гадоў нічога не змянілася. Ніколі не сумнявайся ў нягодніках. Але на акцыі, вядома, выходзіць варта. Інакш гэта будзе Паўночная Карэя. Я спадзяюся, што Еўропа ўсё ж нейкія санкцыі адновіць, калі там не зусім, мякка кажучы, скурвіліся. Будзем нагадваць, з кім яны справу маюць, каб ім зусім не было соладка мець справу з такім мярзотнікам.

## «Хаджу на Акрэсціна як на працу»

Сястра Максіма Вінярскага, Алена, паведаміла, што брат ужывае толькі ваду і сокі:

— Трымае галадоўку з першага дня. Галоўнае для яго — кніжкі. Прынесла белетрыстыку, дэтэктывы. Усю літаратуру, што была дома, ён ужо па некалькі разоў перачытаў — дзякуючы ГУУС Мінгарвыканкама.

Я сюды як на працу хаджу, напэўна, з 2002 года. У Макса ў суме каля года адсідкамі набралася. Я абсалютна не ўражваюся. Было цалкам прадказальна, па-першае, што не дадуць сабрацца ўсім, хто хоча. А па-другое, тых, хто збярэцца, усіх павяжуць. Таму ніякага шоку, ніякага здзіўлення — абсалютна нічога няма. Я ведала, чым я буду займацца пасля 25-га. Я ведала, што я буду сюды праз дзень ездзіць. Абсалютна руцінная працэдура для нашай сям'і.

**Села на аўтобус, ён на Казлова спыніўся. Выйшла. Стала, гляджу. Людзей хапаюць. «Ідзіце ў пераход». Я кажу: «Мне ў пераход не трэба. Я жыву ў гэтым горадзе, хачу хадзіць там, дзе я хачу». Ну хвілін 10 пастаяла. Усё. «Гэту бяром». Затрымалі, у Маскоўскі РУУС завезлі**

Алена паведаміла, што за акцыю 17 лютага брата завочна асудзілі на 16 сутак. У суд ён не хадзіў. Плюс 8 сутак за Дзень Волі — так што сядзець будзе 24 дні.

— Канечне, падтрымліваем яго, — кажа Алена. — Ну просім, каб на ражон не лез. Але ён сваё меркаванне мае цвёрдае. Таму калі ён лічыць нешта патрэбным, то на яго немагчыма паўплываць. Усё, што ён лічыць патрэбным, ён будзе рабіць.



Максім Вінярскі

Стаю, кансультую, бывае, народ у чарзе, калі няма абазнаных. Людзі дзеляцца перадачамі адзін з адным. Калі хтосьці перабраў вагу, і яму вярнулі, то тут жа прапануюць на выхадзе тым, у каго няма лішку. Людзі вельмі салідарныя, калі ўжо хто сюды патрапіць. Хаця некаторыя, бывае, злуюць на сваіх сваякоў, кажуць: «Ну вернецца дахаты, я яму дам!» Але яна тут стаіць з торбай, значыць, не ўсё так кепска.

Калі чакаць, пакуль будзе спрыяльны клімат — гэтага не будзе ніколі. Гэтага не будзе пры якім рэжыме. Таму альбо мы пачуваем сябе гаспадарамі ў краіне і паводзім сябе так, як мы мяркуем правільна рабіць. Альбо мы сядзім як мышы пад венікам, чаго ад нас і дабіваюцца.

І прыклад таго ж Эдуарда Пальчыса паказвае, што калі салідарнасць сістэмна б'е ў адну кропку, то нават рэжым можа ісці на нейкія манеўры на карысць канкрэтным людзям і нашай справе ў цэлым. А інакш, калі мы не будзем штурхаць, нічога не зрушыцца ніколі. Урэшце мы мусім знайсці тую апошнюю саломінку, которая паламае хрыбетнік гэтаму ішаку.

## «Шлёпнула ім налепку ў аўтазаку. На памяць!»

Майя Навумава прынесла перадачу сябру Леаніду Кулакову. Таксісту далі 25 сутак. Сама Майя не выключае, што наступствы ў выглядзе позвы ў суд яе яшчэ могуць чакаць наперадзе.

— Села на аўтобус, ён на Казлова спыніўся. Выйшла. Стала, гляджу. Людзей хапаюць. «Ідзіце ў пераход». Я кажу: «Мне ў пераход не трэба. Я жыву ў гэтым горадзе, хачу хадзіць там, дзе я хачу». Ну хвілін 10 пастаяла. Усё. «Гэту бяром». Нічога не казала — ніякіх лозунгаў, наогул нічога, проста стаяла назірала. Затрымалі, у Маскоўскі РУУС завезлі.

Гадзіны тры пратрымалі пад дажджом, абшукалі заплечнік, зрабілі вопіс рэчаў. Я ўжо рыхтавалася на суткі. Завялі ў актавую міні-залу, — было чалавек 30, можа да 40. Сядзелі, чатыры чалавекі апытвалі ў форме. Ну, сядзелі-сядзелі. Потым думаю: што я тут раблю? «Вы мне патлумачце, за што? Што вы мне прад'яўляеце?» — пачала абурацца. Не вытрымалі: «Дзяўчына, давайце мы вас выведзем». Ну вось так і адпусцілі.

У аўтазаку я яшчэ не каталася. Колькі людзей пахапалі! Я была проста ў шоку, я не ўяўляла, што такое будзе на самай справе. Як ваенная становішча.

Шлёпнула ім налепку ў аўтазаку — з Днём Волі. На памяць!

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. Помнік «казахскаму Бандэру»

Расійская грамадскасць абураная навінамі з казахскага горада Кызыларда, дзе 28 сакавіка з удзелам губернатара, сенатара і навукоўцаў адбылася ўрачыстая цырымонія адкрыцця помніка Мустафе Шакаю, а таксама канферэнцыя, прысвечаная яго спадчыне. Мустафа Шакай — казахскі грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст, ідэолаг барацьбы за незалежнасць Туркестана ў часы грамадзянскай вайны. Пасля перамогі бальшавікоў ён знаходзіўся ў вымушанай эміграцыі ў Францыі, дзе сустрэў нямецкую акупацыю. Гітлераўцы затрымалі Шакая і адправілі ў Берлін, дзе Мустафе прапанавалі ўзначаліць Туркестанскі легіён. Апошні планавалася набраць з палонных савецкіх казахаў і ўзбекаў, і замяніць ім нямецкія часткі ў баях на Усходнім фронце супраць савецкіх войскаў. Шакай, паводле сучаснай казахскай гістарыяграфіі, нібыта спрабаваў атрымаць з магчымага супрацоўніцтва з немцамі нейкія дывідэнды, настойваў на тым, каб вайскоўцы створанага ім фармавання маглі быць выкарыстаныя толькі пры набліжэнні тэатру вайны да межаў Сярэдняй Азіі. У любым выпадку, у снежні 1941-га Шакай памёр, і той легіён, які сябе асабліва не праявіў, ужо стварылі без яго. Праўда, факт смерці Шакая не выратаваў яго ад таго, што ў часы СССР з Мустафы стварылі казахскі аналаг Сцяпана Бандэры. Не дзіўна, што помнік Шакаю разглядаецца як спроба рэвізіі савецкай версіі казахскай гісторыі.

**Паводле казахскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Комікі атакуюць Качыньскага

Апошнім часам у Польшчы назіраецца кардынальная змена палітычных сімпатый. Кіруючая кансерватыўная партыя «Права і Справядлівасць» (PiS) паступова губляе электарат на карысць ліберальнай апазіцыі. Апісаную метамарфозу шэраг польскіх палітолагаў тлумачаць фурорам сатырычнага шоў «Ucho Prezesa». Гэта серыял, які стварыла вядомая польская камедыйная трупа «Kabaret Moralnego Niepokoju». Падзеі серыялу адбываюцца ў кабінеце прэзідэнта, які па лексікону і жэстам вельмі падобны да Яраслава Качыньскага, лідара PiS. Прэзідэнт, ролю якога выконвае акцёр Роберт Горскі, сустракае наведвальнікаў, каб даць ім розныя загады або заслухаць справаздачы. Серыял, які стартаваў у лютым на Youtube, вельмі падабаецца палякам, пра што сведчыць вялікая колькасць праглядаў кожнага эпізоду (каля 4,5 мільёна гледачоў). Цікава, што кансерватыўная прэса ўскосна таксама прызнае ролю серыяла ў кампраметацыі ўраду. У сувязі з гэтым некаторыя палітолагі не выключаюць, што праблема «Ucho Prezesa» будзе асобна разглядацца на красавіцкім з'ездзе партыі Качыньскага.

**Паводле польскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Зялёныя фемінізуюць гімн

У выпадку стварэння ўвосень у Германіі ўраду з удзелам «Зялёных», апошнія патрабуюць змены тэксту дзяржаўнага гімну. Пра гэта заявіла старшыня партыі Катрын Гёрынг-Экарт. Рэформа будзе палягаць у тым, каб выключыць з тэксту словы «Vaterland» («Бацькаўшчына») і «brüderlich» («братэрскі»). Слова «Vaterland», як лічаць эколагі, належыць да лексікону Трэцяга Рэйху, не кажучы пра тое, што яно паходзіць ад слова «бацька». Прапануецца замяніць «бацькаўшчыну» выразам «прыгожая краіна». Што тычыцца «brüderlich», то гэта яўна праява сэксізму, паколькі пра сёстраў у гімне — ні слова. Таму «brüderlich» у выпадку рэалізацыі ініцыятывы проста знікне з тэксту. Падобная карэкціроўка гімну будзе, на думку «Зялёных», адпавядаць духу XXI стагоддзя. Прычым на гэтым «Зялёныя» спыняцца не збіраюцца. Ёсць ідэя ў будучым таксама ўнесці ў гімн словы пра тое, што Германія вітае імігрантаў. Неабходнасць узгадаць імігрантаў лідары «Зялёных» тлумачаць выпадкамі, калі сябры зборнай ФРГ — дзеці мігрантаў, ігнаруюць выкананне нямецкага гімну падчас міжнародных спартовых мерапрыемстваў.

**Паводле нямецкай прэсы**

### РАСІЯ. Леніна пахаваюць на гадавіну рэвалюцыі?

Некаторыя колы ў Расіі намагаюцца выкарыстаць 100-ю гадавіну рэвалюцыі ў Расіі як падставу для пахавання Уладзіміра Леніна. З адпаведным заклікам выступіў вядомы расійскі ліберальны публіцыст Мікалай Сванідзэ. Пры гэтым Сванідзэ лічыць, што камуністы будуць не супраць яго прапановы. Ён спасылаецца на тое, што камуністы Зюганава ў апошні час больш чым іншыя расійскія партыі абараняюць інтарэсы праваслаўнай царквы, якая выступае за дэканструкцыю комплексу маўзалея на Чырвонай плошчы. Акрамя таго, сярод камуністаў Расіі паўстаў сапраўдны культ Сталіна, які даўно выштурхнуў культ Леніна. Напэўна, Зюганаў і яго партыя сапраўды могуць пагадзіцца на пахаванне «правадыра пралетарыяту», тым больш, што той прасіў пахаваць яго побач з магілай маці. Аднак у Расіі яшчэ існуюць радыкальныя камуністы.

**Паводле расійскай прэсы**



Фота www.abcnews.go.com

# Бунт на «Востраве д'ябла»

Алег НОВІКАЎ

**У Гаяне — заморскім дэпартаменце Францыі ў Паўднёвай Амерыцы — пачаліся масавыя народныя выступы, якія могуць адбіцца на лёсах Еўропы.**

У свой час у калонію Гаяна з Францыі высылалі найбольш небяспечных (і ў тым ліку палітычных) злачынцаў. Трапічны клімат і не вядомыя еўрапейцам хваробы рабілі побыт зэкаў вельмі цяжкім. Найбольш змрочную славу мела турэмная зона пад назвай «Востраў д'ябла», дзе выжываў толькі кожны дзясяты. Усяго з 1852 да 1956 года, калі згаданую пенітэнцыярную ўстанову зачынілі, тут адбывалі пакаранне 56 тысяч чалавек.

Вобраз Гаяны пачаў мяняцца дзякуючы Шарлю дэ Голю. Спачатку, у 1946 годзе, ён даў усім тубыльцам — крэолам, індзейцам і нашчадкам рабоў, — французскае грамадзянства. Пасля, у 1964-м, загадаў пабудаваць касмічны цэнтр, які стаў візітоўкай дэпартаменту. У нашы часы Гаянскі касмічны цэнтр (GSC) — важны аб'ект касмічнай інфраструктуры ўсяго Еўрасаюза.

Нягледзячы на тое, што касмічная галіна ва ўсім свеце развіваецца вельмі інтэнсіўна, на дабрабыце жыхароў Гаяны гэта адбіваецца мала. Каля трацiны насельніцтва краю не карыстаюцца святлом і водаправодам. 22 працэнты гаянцаў не маюць працы.

Часткова сітуацыю ратуе тое, што Гаяна фармальна застаецца часткай Францыі. Як следства, Парыж павінен клапаціцца пра суайчыннікаў. Прыкладна палова бюджэту краю фармуецца за кошт датацый з цэнтру. Дзякуючы гэтаму жыхары Гаяны — найбольш заможныя ў Паўднёвай Амерыцы, што, аднак, не выклікае асаблівай эйфарыі ў саміх абарыгенаў. Будучы французамі, яны арыентуюцца на стандарты французскіх правінцый і дэпартаментаў, сярод якіх Гаяна па ўсіх паказчыках — стабільна самы бедны край.

Акрамя сацыяльнай, ёсць яшчэ адна праблема. Мара пра французскі пашпарт штурхае шмат жыхароў суседніх краін эміграваць у Гаяну з надзеяй у будучыні перабрацца ў Еўропу. Прычым, нелегалы звычайна жывуць кампактна. Такія этнічныя кварталы даўноператварыліся ў інкубатары крыміналу. Не дзіўна, што ўзровень злачынстваў у Гаяне ўтрая большы, чым у метраполіі.



Менавіта тэма крыміналу стала дэтанатарам, які ўзарваў гаянскае грамадства. З 27 сакавіка ў краі пачаўся агульны страйк, маштабы якога сапраўды шакуюць. З 250 тысяч жыхароў краю ў пратэстах удзельнічае да ста тысяч чалавек. Яны блакуюць дарогі і працу адміністрацый. Напэўна, найбольш гучнай акцыяй у межах выступаў стала блакіроўка запуску ракеты з пляцоўкі таго самага GSC.

Выклікае інтарэс таксама і мадэль кіраўніцтва бунтам. Увесь пратэст нефармальна падпарадкаваны групе «500 братоў». Нават прозвішчы яе сяброў невядомыя, паколькі на публіцы яны з'яўляюцца выключна з закрытымі тварамі.

Асноўныя патрабаванні пратэстоўцаў — палепшыць стан

**Гаянцы абралі спрыяльны час для выступу. У красавіку Францыя абірае прэзідэнта. Эскалацыя ў Гаяне здольная паўплываць на выніки выбараў, ад якіх залежыць будучыня ЕС**

грамадскай бяспекі, медыцыны і адукацыі, дазволіць культываваць зямлю, што належаць дзяржаве. Ёсць у гэтым спісе і арыгінальныя пункты: напрыклад, прыняць для Гаяны аналаг «плану Маршала». Праўда, на першым этапе гаянцы гатовыя задаволіцца тым, што Парыж пералічыць у мясцовы бюджэт 2,5 мільярда еўра (французскі ўрад гатовы прапанаваць не больш за мільярд).

Трэба сказаць, што гаянцы абралі вельмі спрыяльны час для выступу. У красавіку Францыя абірае прэзідэнта, і кандыдаты на Елісейскі палац, натуральна, вымушаныя неяк каментаваць паўстанне па той бок Атлантыкі. Аглядальнікі нават не выключаюць, што эскалацыя ў Гаяне здольная паўплываць на рэйтынгі кандыдатаў і вынікі выбараў, ад якіх залежыць будучыня ЕС.

Найбольшыя праблемы з-за Гаяны, падаецца, у Марын Ле Пэн — кандыдаткі ад «Нацыянальнага фронту». Патрабаванні пратэстоўцаў у Гаяне фрагментарна падобныя на выбарчыя тэзісы NF: спыніць міграцыю і дэпартаваць усіх нелегалаў. Аднак звычайна этнічныя французы, на якіх абапіраецца Ле Пэн, вельмі грэбліва ставяцца да гаянцаў, сярод якіх вельмі мала еўрапеоідаў.

Што тычыцца афіцыйнага Парыжу, то пагасіць бунт за акіянам намагаюцца за кошт адпраўкі туды чыноўнікаў высокага рангу. Пакуль перамовы ідуць беспаспяхова, у тым ліку праз слабую папулярнасць цяперашняга прэзідэнта Франсуа Аланда.

Яшчэ адзін фактар правалу перамоваў — радыкальная пазіцыяй групоўкі «500 братоў», якая складаецца, як піша прэса, з прадстаўнікоў бедных кварталаў. 2 красавіка, пасля правалу чарговага раунду перамоваў, міністр заморскіх тэрыторый Эрыка Барэйт вярнулася ў Парыж для кансультацый. Між тым, у Гаяне абвясцілі новую мабілізацыю.

Цугцванг у адносінах паміж цэнтрам і Гаянай можа прывесці да таго, што ў дэпартаменце будуць набываць падтрымку ідэі незалежнасці. Нягледзячы на тое, што выхад са складу Францыі будзе азначаць стопрацэнтны абвал усіх сацыяльных стандартаў, у Гаяне ёсць прыхільнікі суверэнітэту. На апошніх выбарах за «Walwari» — партыю незалежнікаў, — галасавала каля 7 працэнтаў выбаршчыкаў.

# Праўладныя медыя шукаюць украінскі след

Алег НОВІКАЎ

**Падзея тыдня — тэракт 3 красавіка ў піцерскім метро, ахвярамі якога сталі 14 чалавек. Мясцовы выдавец Уладзімір Кузмін распавядае «Новаму Часу» пра тое, як жыхары горада ўспрынялі трагедыю і якія могуць быць яе глабальныя наступствы.**



Фота www.spb.kp.ru

***— Дзе вас асабіста напаткала навіна пра выбух?***

— На месцы працы, хаця праца ў офісе прыпынілася, як толькі стала вядома пра выбух. Першай агульнай рэакцыяй пасля шоку стала высвятленне, што сталася з роднымі і сябрамі. Таму ўсе былі вельмі знерваваныя, у тым ліку праз чуткі пра другую бомбу на іншай станцыі. Акрамя таго, некаторыя сайты папулярных гарадскіх выданняў нейкі час не адчыняліся праз тэхнічныя праблемы.

Паступова малюнак стаў больш зразумелы, хаця атмасфера надзвычайнага здарэння захоўвалася да канца дня. Праз тое, што зачынілі метро, грамадскі транспарт аказаўся перапоўнены. Да самага глыбокага вечара на вуліцах былі заторы і стурар. Праўда, падобныя праблемы часткова кампенсаваліся за кошт нізавой грамадзянскай салідарнасці. Праз сацыяльныя сеткі аўтамабілісты прапаноўвалі бясплатныя паслугі для тых, каму «па дарозе». Аднак трэба прызнаць, што хапала і такіх, хто патрабаваў за паездку ў тры разы больш, чым яна каштуе звычайна.

***— Вядома, што калісьці Піцер быў ледзь не еўрапейскай сталіцай палітычнага тэрарызму (дастаткова ўзгадаць забойства нарадавольцамі цара Аляксандра II). Аднак у часы Пуціна праблема экстрэмізму, бытцам, ніколі не была на гарадской павестцы дня...***

— На самай справе, гвалту ў горадзе на Няве хапала, асабліва ў ліхія 90-я, аднак гэта былі, як правіла, бандыцкія разборкі. Прычым некаторыя з «браткоў», як цяпер высвятляецца, былі гатовыя на замахі на гарадскіх палітыкаў самага высокага рангу. Пасля, калі да нас прыйшла мода на стыль «скінхэд», паўстала неанацысцкая «Баявая тэрарыстычная група», якая не толькі забівала выпадковых мігрантаў. Прыкладна ў 2003-м яна рыхтавала буйны тэракт супраць удзельнікаў адной міжнароднай канферэнцыі, аднак радыкалаў паспелі арыштаваць.

Тое, што тэрарыстычныя акты доўгі час абміналі горад, можна перш за ўсё патлумачыць тым, што геаграфічна канфлікт, адкуль для Расіі ідзе пагроза тэрарызму, знаходзіцца далёка — на Паўночным Каўказе. Акрамя таго, прывабных мішэняў для экстрэмістаў у Піцеры няшмат — праз адсутнасць федэральных устаноў і палітыкаў, якія сімвалізуюць рэжым. Напэўна таму тэракт здарыўся ў дзень, калі ў горад прыехаў Пуцін.

***— Выбух у піцерскім метро адбыўся сінхронна таму, як у Расіі стартавала прэзідэнцкая кампанія. Як тэракт паўплывае на яе ход?***

— Большасць прадстаўнікоў палітычнага мейнстрыму — як ад улады, так і апазіцыі, як і трэба для публічных асобаў, выказалі спачуванне ахвярам трагедыі. Аднак некаторыя фракцыі абодвух лагераў сапраўды кінуліся палітызаваць трагедыю. Сцісла кажучы, усё вярнулася на пачатак XXI стагоддзя, калі па Расіі пракацілася хваля загадкавых выбухаў дамоў. Як і тады, сёння частка апазіцыі пабачыла ў гэтым руку Пуціна, якому, маўляў, патрэбны матыў, каб закруціць гайкі і кансалідаваць грамадства вакол кіраўніка дзяржавы. Тое, што цяпер ён, маўляў, узгадаў пра мінулае, таксама звязваюць з нядаўнім ростам вулічных пратэстаў. Праўладныя медыя, наадварот, шукаюць у тэрактах у Піцеры след украінскіх радыкалаў, чыя агентура працуе ў Расіі, быццам бы, абапіраючыся на мясцовых лібералаў.

***— Ці маюць спробы палітызаваць трагедыю рэзананс сярод жыхароў гораду?***

— Гэта, хутчэй, цікавіць сталічных палітолагаў. Думаю, значна большы інтарэс прыцягвае скандал з сістэмай бяспекі ў нашым метрапалітэне. У горадзе каля 60 станцый, на якіх на ўваходах прыкладна год таму ўсталявалі больш за 300 металадэтэктараў. Цяпер высветлілася, што гэтая сістэма ад самага пачатку не магла працаваць. І не толькі таму, што ў выпадку, калі дэтэктар скануе жалеза і падае сігнал, паліцэйскі павінен праверыць пасажыра, што пагражае вялізарнымі чэргамі. Высвятляецца, што тыя «сканеры» не былі настроеныя. Цяпер усім цікава, хто з муніцыпальных чыноўнікаў заплаціў вялізарныя бюджэтныя грошы за машыны, якія не працуюць.

**«Ісламскай дзяржаве» засталіся лічаныя дні. Радыкалы, сярод якіх пару тысяч расійскіх грамадзян, хутка пачнуць вяртацца на радзіму, што, натуральна, не можа не турбаваць**

***— Цяпер асноўным падазраваным з'яўляецца выхадзец з Кіргізіі. Калі інфармацыя пацвердзіцца, гэта можа справакаваць у расійскім соцыуме ксенафобскія выступы супраць мігрантаў?***

— Мяркую, любыя спробы такіх выступаў будуць хутка ліквідаваныя. У тым ліку таму, што ўлада праз сваю карумпаванасць вельмі зацікаўленая ў працоўных мігрантах. Засваенне казённых бюджэтаў, калі дворнік-таджык атрымлівае траціну заробку, а астатняе «пілуюць» чыноўнікі — вельмі добры гешэфт. Акрамя таго, апошнім часам мы сутыкнуліся са з'явай, калі дыяспары пастаўляюць масоўку на пракрамлёўскія мітынгі.

***— Расійскі афіцыёз кажа, што на фоне 4–6 буйных тэрактаў у Еўропе за апошні час расійская статыстыка ў гэтай галіне не самая кепская. Не кажучы пра тое, што спецслужбам удалося папярэдзіць патэнцыйна большы тэракт на іншай станцыі.***

— На самай справе, сітуацыя не падаецца камфортнай. Мы яшчэ не ведаем, ці дзейнічаў тэрарыст у метро самастойна. Не выключана, што забойца быў звязаны з выхадцамі з краін СНД, якія ваявалі ў Іраку і Сірыі на баку экстрэмістаў. У любым выпадку, аб'яднанню «Ісламская дзяржава», якое атакуюць з усіх бакоў, засталіся лічаныя дні. Як следства, радыкалы, сярод якіх пару тысяч расійскіх грамадзян, хутка пачнуць вяртацца на радзіму, што, натуральна, не можа не турбаваць.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Лука Максімавіч



26-гадовы комік, вядомы пад псеўданімам Любіша Белы, кандыдат на выбарах прэзідэнта Сербіі, літаральна ўварваўся на сцэну сербскай палітыкі, атрымаўшы 9 працэнтаў галасоў. Гэта трэці вынік сярод усіх кандыдатаў.

Феномен Белага выклікаў вельмі шмат каментараў як у краіне, так і ў замежных медыя, паколькі ўсё часцей фрыкі становяцца кумірамі электарату. Да такіх, безумоўна, належыць і Лука. Замест палітычнай праграмы Белы забаўляў выбаршчыкаў смешнымі відэаролікамі і эксцэнтрычнымі выхадкамі. Напрыклад, з'яўляючыся на публіцы верхам на белым кані пад песню «Нарадзіўся лідар, з нябёсаў пададзены знак. Ён знішчыць хлусню сваім мячом, ён разаб'е кайданы». Передвыбарчыя прамовы Белы выконваў у стылі рэп, абяцаючы выбаршчыкам «канчатковую баналізацыю палітычнага грамадскага жыцця».

Праблема ў тым, што такія, як Белы, відавочна кампраметуюць выбары і дэмакратычны лад. Праўда, сам комік сцвярджае, што хацеў якраз наадварот удыхнуць у дэмакратычны працэс у Сербіі новае дыханне. «Увага, якую мы прыцягваем да сябе — гэта аплявуха ўладам і апазіцыі. Яны павінны спытаць сябе, куды яны прывялі краіну. Калі выдуманы персанаж удзельнічае ў выбарах і людзі за яго галасуюць, гэта значыць, што нешта не ў парадку», — кажа сам Лука Максімавіч.

А вось другую задачу сваёй кампаніі — не даць Аляксандру Вучычу, кандыдату ад улады, перамагчы ў першым туры, Лука рэалізаваць не здолеў. Вучыч атрымаў 55 працэнтаў галасоў і стаў прэзідэнтам.

### Вікторя Кавеса



Абранне новай сустаршыні шведскай партыі «Фемінісцкая ініцыятыва» (FI) выклікала агульнаеўрапейскі інтарэс. FI цяжка назваць вядучай партыяй у краіне, хаця на апошніх парламенцкіх выбарах яна атрымала па мясцовых мерках дастаткова шмат — 3,1 працэнта галасоў і мае шэраг муніцыпальных дэпутатаў.

Вікторыя Кавеса — першая чарнаскурая жанчына, якая нарадзілася па-за межамі ЕС і ўзначаліла партыю ў еўрапейскай краіне. 41-гадовая лідарка шведскіх феміністак паходзіць з Уганды, адкуль яны з маці былі вымушаны бегчы праз этнічныя канфлікты. Вікторыя трапіла ў Швецыю, калі ёй было 9 гадоў. Пасля вывучала сацыялогію, працавала журналісткай і цяпер робіць палітычную кар'еру. Як палітык Кавеса збіраецца змагацца за амністыю для нелегалаў, сямігадзінны працоўны дзень і большыя падаткі для заможных шведаў.

Трэба дадаць, што нават у талерантнай Швецыі абранне Вікторыі на пасаду сустаршыні нацыянальнай партыі выклікала абурэнне сярод ксенафобскай часткі грамадства. Пасля таго, як на адрас новай лідаркі феміністак пачалі паступаць шэраг SMS са смяротнымі пагрозамі, паліцыя надала ёй асабістую ахову.

### Пётр Парашэнка



Прэзідэнт Украіны фарсіруе прыняцце закона аб забароне падвоенага грамадзянства. У Вярхоўнай Радзе на мінулым тыдні пачаўся разгляд адпаведнага законапраекта, які падаў асабіста гарант. Падвойнае грамадзянства ва Украіне забаронена Канстытуцыяй з 1996 года. Аднак на самай справе норма не працуе.

Нягледзячы на неабходнасць навесці парадак з пашпартамі, забарона падвойнага грамадзянства можа мець непрадказальныя наступствы. Вядома, што Венгрыя і Румынія раздаюць дакументы нашчадкам тых, хто да Другой сусветнай жыў у Закарпацці і ў Букавіне. Пазбаўленне ўкраінскага грамадзянства — галоўнае пакаранне за другі пашпарт, — можа прывесці да таго, што ў некаторых раёнах Закарпацця з'явяцца вёскі, дзе не будзе ніводнага грамадзяніна Украіны.

Магчыма, Парашэнка гатовы на канфлікт з Будапештам і Бухарэстам, каб прадухіліць больш сур'ёзную праблему. У расійскай Дзярждуме разглядаецца закон, паводле якога рускамоўны або праваслаўны вернік з краін СНД будзе мець права на расійскі пашпарт. З улікам вялікай колькасці рускамоўных, ва Украіне можа паўтарыцца сцэнар Крыму, дзе яшчэ да анексіі шматлікія крымчане абзаваліся пашпартамі з двухгаловым арлом.

# Плюсы і мінусы літоўскага міфа

Аляксей ЧУБАТ

**Літва як дзяржава ўбачыла свет у 1918 годзе, і літоўцы адразу ж актывізавалі даследаванне спадчыны Вялікага Княства Літоўскага. Акрамя вывучэння гісторыі, упершыню быў узняты і сцяг яе маштабнай папулярызацыі. Займаліся літоўцы аднаўленнем гістарычнай спадчыны і ў часы СССР.**







Таму думка пра тое, што «Літва — адзіная спадкаемца ВКЛ», пануе ва ўсёй літоўскай публічнай прасторы і падтрымліваецца на высокім дзяржаўным узроўні. Кожны літовец, дзе б ён ні працаваў і які б статус не меў, добра, калі не выдатна, ведае гісторыю краіны і асабліва ролю ВКЛ ва ўзнікненні Літвы. З цэльным уяўленнем пра тое, як Вялікае Княства з цягам часу пераўтварылася ў сучасную Літву, гэтую краіну пакідае кожны замежнік, які карыстаўся паслугамі мясцовага гіда. Як жа літоўцам удаецца ствараць такі моцны наратыў і ці ёсць у такім падыходзе мінусы?

## Сто гадоў форы

Мэтанакіравана ствараць аснову сваёй сённяшняй ідэнтычнасці літоўцы пачалі амаль сто гадоў таму. Маштабны помнік Вітаўту ў Коўне аўтарства Вінцаса Грыбаса з'явіўся якраз у міжваенны перыяд, у 1930 годзе. Князь Вітаўт стаіць на пастаменце, а пад ім, прыгнуўшыся, размешчаны чатыры переможаныя фігуры: маскавіт, немец, паляк і татарын. Калі Літва гвалтам была інкарпараваная ў СССР, помнік знішчылі, але ён быў адноўлены ў 1992 годзе.

Фігура Вітаўта — самая знакавая для літоўскага наратыву. Вялікі князь літоўскі прысутнічае ўсюдыісна: у назвах вуліц, навучальных устаноў, гэтым імем называюць дзяцей. Партрэт Вітаўта быў ключавым у літоўскай школе ў перыяд першай незалежнасці краіны. Каб гэта пабачыць, дастаткова наведаць рэканструяваную школу 1930-х гадоў у музеі народнага быту Румшыскес пад Коўна. Разам з Вітаўтам тагачасныя школьнікі — дзядулі і бабулі сучасных літоўцаў, — бачылі і партрэт аўтара дзяржаўнага гімна Вінцаса Кудзіркі, і епіскапа-асветніка Мацеюса Валанчуса, і іншых знакавых для літоўскай дзяржаўнасці гістарычных постацей.

Таму няма дзіва, што пасля Другой сусветнай вайны ў Літве сфармаваўся вялікі пласт нацыянальна арыентаваных інтэлектуалаў: навукоўцаў, мастакоў, архітэктараў. Фактычна гэта выявілася ў тым, што замак у Троках, які быў заснаваны яшчэ вялікім князем Гедымінам, пачаў аднаўляцца ў 1955 годзе. Рэстаўрацыя доўжылася больш 30-ці гадоў, і дзякуючы ёй мы зараз маем цудоўную пярліну эпохі ВКЛ. А літоўцы маюць, найперш, моцны аргумент для сілкавання свайго асноўнага дзяржаўнага нацыятворнага наратыву. Дарэчы, як у Трокскім замку, так і на іншых гістарычных аб'ектах у турыстычных буклетах ВКЛ называецца «Вялікае Літоўскае Княства». Два словы перастаўлены месцамі, а сутнасць становіцца зусім іншай.

Чаму савецкая ўлада дазволіла літоўцам не толькі займацца Трокамі, але яшчэ і выдзяляла грошы на аднаўленне замку шляхты, якая, па ўяўленнях тагачасных ідэолагаў, на працягу стагоддзяў цягнула жылы працоўнага сялянства? Справа ў вымушаным выбары, які для сябе зрабілі камуністычныя нобелі. Пасля 1944-га, калі месца немцаў у Літве заняла Чырвоная Армія, шмат узброеных літоўцаў павярнулі рулі аўтаматаў у бок Усходу. Каля дзесяці тысяч чалавек працягнулі партызанскую барацьбу за незалежнасць краіны, і толькі ў сярэдзіне 1950-х міліцыя, КДБ, войскі канчаткова знішчылі апошнія ачагі супраціву. Пасля такога лідары СССР скемілі: няхай літоўцы займаюцца гісторыяй і культурай, але без агнявой зброі.

## Як прысабечыць агульную гісторыю?

Сёння ствараюцца маштабныя энцыклапедыі на літоўскай мове, якія апісваюць Беларусь і Украіну як гістарычныя землі цяперашняй Літвы. Узяць, напрыклад, сучасныя гістарычныя атласы для школьнікаў. Насуперак дамінуючай у Беларусі думкі, што першая сталіца ВКЛ — Навагрудак, у Літве кажуць пра першую сталіцу Кернаў, якая знаходзіцца ў 35 кіламетрах ад Вільні. Навагрудак разам з Гродна і Мінскам, па меркаванні сённяшніх літоўскіх гісторыкаў, далучыліся да ядра ВКЛ пазней.

Трохтомная, выдатна аздобленая энцыклапедыя «Вялікая Літва» распавядае на літоўскай мове пра землі ВКЛ. Першыя два тамы прысвечаныя гістарычным помнікам Беларусі, трэці — Украіны. Аўтары наведалі і нас, і ўкраінцаў, зрабілі прафесійныя фотаздымкі. Згодна сучаснай практыцы працы з інфармацыяй, энцыклапедыя багата ілюстраваная, даецца мінімум тэксту.

Напрыклад, мястэчку Пароск у Ваўкавыскім раёне (Padaroskas па-літоўску) прысвечаны аж разварот энцыклапедыі. Мы бачым невялікую мапу, якая падказвае дарогу да мястэчка. На фотаздымках — сядзібна-паркавы комплекс канца XVIII стагоддзя, Свята-Троіцкая царква, якая першапачаткова, у тым жа стагоддзі, закладалася як касцёл. На словах у энцыклапедыі — мінімум вербальнай ідэалогіі, але візуальная падача і сам кантэкст трохтомніка фармуюць патрэбны Літве сучасны культурна-палітычны наратыў. Ствараюць сімвалічнае права на валоданне гістарычнай спадчынай Беларусі і Украіны.

Літоўцы працуюць у свой бок і са спадчынай і памяццю, якая зараз звязана з гісторыяй Расіі. Гаворка ідзе пра Калінінград, які па-беларуску зваўся Каралявец, а па-літоўску — Каралявічус. Калінінградскі край, на думку літоўскіх гісторыкаў, уваходзіць у панятак «Малая Літва». У Малую Літву ўключаны землі блізу Балтыйскага мора, у тым ліку і Клайпеда. І калі з апошняй усё зразумела — цяпер гэта літоўскі горад і цэнтр Клайпедскага павета — Калінінградская вобласць сёння з'яўляецца часткай Расіі.

Таму пра Малую Літву, лічаць літоўцы, неабходна распавядаць у тым ліку з дапамогай маштабных навукова-папулярных энцыклапедый. Іх выдае спецыяльна створаны для гэтага Фонд Малой Літвы (гэта прыкладна, каб у Мінску існаваў Фонд беларускай Вільні, які б займаўся выданнем кніг пра тое, што Вільня — наш горад). У пачатку энцыклапеды пералічаныя ўсе яе фундатары і сумы іх ахвяраванняў — агулам гэта дзясяткі тысяч долараў. Маштаб такога грамадскага краўдфандынгу на глебе гісторыі і культуры ўражвае.

## І гэта дае плён

Літоўскія гуманітарыі стварылі і замацавалі ў свядомасці свайго народа міф пра Літву як адзіную пераемніцу Вялікага княства Літоўскага. Міф мае надзвычай парадыгмальны характар: ён не прымае ніякую крытыку. То бок, калі спрабуеш абвергнуць пастулаты міфа, літоўцы нават не намагаюцца спрачацца. Бо іншы погляд на гісторыю ВКЛ у іх разуменні — чыстае блюзнерства.

Нацыянальная ідэя літоўцаў прапісана выдатна, але зроблена гэта чыста з прысабечанскіх пазіцый, без беларускай візіі. Яна спрыяе еднасці літоўцаў, стварае адзіную карціну свету развіцця сённяшняй Літвы, цешыць пачуццё гонару за сваю Радзіму. Але калі літоўцы пачынаюць выходзіць у свет, будаваць палітычныя адносіны з бліжэйшым суседам — Беларуссю — на глебе гісторыі ўзнікае канфлікт непаразумення. Літоўцы хочуць мець прыватнае, толькі сваё права на гісторыю ВКЛ, і амаль не разглядаюць ніякіх іншых варыянтаў.

Несумненна, цалкам прыдуманай гісторыю Літвы (перыяд ВКЛ) называць няправільна і нельга. Усё ж навука — і літоўская, і беларуская — аперуе фактамі, і яны маюцца ў абодвух бакоў. Але Літва стварыла хутчэй не міфалагізаваную гісторыю, што цалкам прымальна і нават карысна для любой краіны. Іх гістарычны наратыў бліжэй да міфатворчасці. І ў гэтым яго слабасць.

## Лепш разам, чым паасобку

Невытлумачанасць гістарычных пазіцый Беларусі і Літвы стварае гуманітарную напружанасць. А гэта адбіваецца і на эканамічных, і на палітычных адносінах нашых краін. Складваецца ўражанне, што Літва не разумее з геапалітычнага становішча існаванне Беларусі як незалежнай краіны — надзвычай, нават крытычна, важнае для Балтыйскага рэгіёна.

Калі літоўцы выштурхоўваюць нас з гісторыі ВКЛ, яны падрываюць нашу суб'ектнасць і нават суверэннасць. Тактычна гэта для іх выгадна, але стратэгічна — нашто Літве слабы рэгіянальны партнёр? Гэта аслабіць і яе таксама. Бо адна справа — АЭС у 50 кіламетрах ад Вільні, і зусім іншая, не дай Бог, расійская ваенная база на такой жа адлегласці. Моцная суседка Беларусь з цэльнай гісторыяй — значна лепш для бяспекі Літвы, чым літоўска-расійская мяжа побач са сталіцай. Хаця б таму, з рацыянальнага падыходу, ім варта паважаць і наша права на гісторыю ВКЛ.

Хаця мы і без іх ведаем, што наша права крыецца ва ўсёй логіцы гістарычнага працэсу на працягу стагоддзяў.

**Фота аўтара**



# Чалавек, які ўцёк з Паўночнага Урала

Уладзімір ВАЛОДЗІН

**У Беларусі сталінскія рэпрэсіі да гэтага часу застаюцца не да канца асэнсаваным і не пераадоленым мінулым. Пра гэта сведчыць не толькі адсутнасць афіцыйнага мемарыялу ў Курапатах, але і сітуацыя з рэабілітацыяй ахвяр рэпрэсій. Ёсць падставы сцвярджаць, што сотні тысяч іх застаюцца нерэабілітаванымі.**



Выпраўленча-працоўны лагер у Варкуце

У 1994 годзе Уладзімір Адамушка ў сваёй кнізе «Палітычныя рэпрэсіі 20–50-ых гадоў на Беларусі» сцвярджаў, што з лістапада 1917 па красавік 1953 года каля 250 тысяч чалавек былі асуджаны пазасудовымі і судовымі органамі «па палітычных матывах». Той самы аўтар падлічыў, што ў 1930–1950-я гады ў адміністрацыйным парадку было рэпрэсавана каля 350 тысяч чалавек. Гэта людзі, якія пацярпелі ад раскулачвання, высылкі з Заходняй Беларусі былых асаднікаў ды іншых падобных «апэрацый». Разам атрымліваецца каля 600 тысяч чалавек. Ацэнкі гэтыя — вельмі асцярожныя, да іх можна смела дадаваць «не менш за».

Як паведамляецца на сайце Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, сёння ў базе дадзеных «Неабгрунтавана рэпрэсаваныя грамадзяне Беларусі» ўтрымліваюцца 180 500 запісаў. Праўда, вусна архівісты называюць большую лічбу — каля 250 тысяч чалавек. Так ці інакш, у базе нестае звестак пра сотні тысяч людзей. Апублікаванымі ж у газетах і кнігах «Памяць» былі звесткі толькі прыкладна пра 60 тысяч чалавек, рэпрэсаваных у Беларусі. Зараз яны, дзякуючы таварыству «Мемарыял», даступныя ў адкрытай базе дадзеных «Ахвяры палітычнага тэрору ў СССР».

Ёсць яшчэ адна акалічнасць. Рэабілітацыі «зверху», якая ў 1990-я гады праводзілася дзяржаўнымі органамі, падлягалі толькі адміністрацыйна рэпрэсаваныя і асуджаныя за «контррэвалюцыйныя злачынствы» (артыкулы 63–76 Крымінальнага кодэкса БССР 1928 года). У згаданай кнізе Уладзімір Адамушка піша: «Нельга ставіць на адну дошку тых, хто пацярпеў ад палітычных рэпрэсій, і тых, хто быў асуджаны за крымінальныя злачынствы. А апошніх было нямала ў 20–50-я гады».

Але не ўсё так проста з размежаваннем «крымінальных» і «палітычных» артыкулаў. Апроч «контррэвалюцыйных» існавалі і іншыя палітычныя артыкулы. Гэта, напрыклад, парушэнне правілаў цэнзуры (арт. 1212 КК БССР 1928 г., уведзены ў 1935 г.), «антысавецкая агітацыя і прапаганда» (арт. 103 КК БССР 1928 г., скасаваны ў 1937 г.), «мужаложства» (арт. 2351 КК БССР 1928 г., уведзены ў 1934 г.). Былі і значна менш відавочныя артыкулы, многіх з асуджаных па якіх трэба лічыць неабгрунтавана рэпрэсаванымі і рэабілітаваць.

Зараз я апрацоўваю дакументы «народнага» суда 3 участка горада Менска (у 1930-я гады назва горада афіцыйна пісалася праз «е») з Дзяржаўнага архіву Мінскай вобласці. Хаця суд знаходзіўся ў горадзе, судзілі ў ім пераважна сялян прыгарадных сельсаветаў, зрэдзьчасу — рабочых прыгарадных заводаў (напрыклад, цагляных) ці навучэнцаў вучэльняў. Таксама суд разглядаў справы тых жыхароў Заслаўскага, Чэрвеньскага ды іншых раёнаў, каго ўтрымлівалі да суда пад вартай у Менскай турме.

Адным з іх быў **Пётра Арцёмавіч Сандовіч,** 1873 года нараджэння, непісьменны. У 1930 годзе ён быў раскулачаны і высланы з тэрыторыі БССР у Чардынскі раён на поўначы Пермскага краю (на той час гэты рэгіён уваходзіў у склад Уральскай вобласці).

Паводле звестак асобага аддзела АДПУ, на 10 снежня 1930 года ў БССР было раскулачана 13 236 сялянскіх гаспадарак, з іх выслана 11 079 гаспадарак (52 914 чалавек). Ва Уральскую вобласць з БССР было ўселена 4 468 сем'яў (21 273 чалавекі). У Чардынскі раён планавалася пасяліць 7 тысяч раскулачаных сем'яў з розных рэгіёнаў СССР. Іх везлі чыгункай да станцыі Салікамск, адкуль 90 кіламетраў да райцэнтра Чардыні трэба было пераадолець па рэках ці гужавым транспартам. Працу раскулачаным павінны быў даць «Волга-Каспій лес», то бок выкарыстоўваць іх планавалася на лесанарыхтоўках. Работу давалі не адразу, а нават калі давалі, то мізэрную плату за яе затрымлівалі. Жыць даводзілася ў пабудаваных на скорую руку бараках. Выселеныя галадалі, малыя дзеці паміралі ад голаду і хвароб. Летам 1930 года ў рэдакцыю газеты «Правда» з поўначы Пермскай вобласці пісаў нехта А. Корасцін: «Ссыльнопоселенцы, живущие в д. Чувашеевой Чердынского района Верхне-Камского окр., ходят в ближайших деревнях около Чувашеевой собирать «ради Христа» и наводят панику: «Вы, мол, [в] колхозы не вступайте, а то будет плохо».

Адразу ж пачаліся ўцёкі. 5 ліпеня 1930 года ў АДПУ нават прайшла нарада па барацьбе з уцёкамі «кулакоў» з месцаў высылкі. Паўнамоцны прадстаўнік АДПУ па Уралу Матсон дакладаў, што ўвесну ўцякала па 30–40 чалавек на дзень. Для барацьбы з уцёкамі былі ўведзены кругавая парука сярод высланых і грашовыя прэміі мясцоваму насельніцтву памерам 30 рублёў за кожнага злоўленага «кулака», былі створаны 6 апергруп транспартнага аддзела АДПУ для праверкі параходаў і чыгункі. Тым не менш, высланыя працягвалі збягаць.

У 1933 годзе з месца высылкі ўцёк і Пётра Сандовіч. Ён вярнуўся ў БССР. У лістападзе 1934 года яго затрымалі, і з таго часу трымалі пад вартай. На жаль, з ацалелых дакументаў не зразумела ані дзе менавіта жыў Сандовіч да раскулачвання, ані ў якую мясцовасць БССР ён вярнуўся, ані дзе яго затрымалі. Няма ў гэтых дакументах і ніякіх іншых біяграфічных звестак пра падсуднага. Пад вартай яго трымалі, хутчэй за ўсё, у Менскай турме (т. зв. Пішчалаўскім замку).

4 снежня 1934 года Пётра Сандовіч быў асуджаны судом 3 участка г. Менска (суддзя Шклярман) да трох гадоў высылкі па артыкуле 118 (частка «б») КК БССР.

Артыкул 118 КК БССР пачынаючы з 15 жніўня 1931 года гучаў наступным чынам: «118. а) Уцёкі з месца абавязковага пасялення або з дарогі да яго, а таксама паяўленне ў мясцовасці, дзе жыць данай асобе забаронена, выклікае — пазбаўленне свабоды да аднаго года. б) Уцёк арыштаванага з-пад варты або з месца зняволення выклікае — пазбаўленне свабоды да двух гадоў».

**Высвятліць, на колькі быў «асуджаны» ў 1930 годзе Пётра Сандовіч, было немагчыма. Бо раскулачаных не асуджалі, а высылалі ў адміністрацыйным парадку. Высылалі не на нейкі тэрмін, а бестэрміновa, да прыняцця іншага рашэння**

Незразумела, чаму да Сандовіча была прымененая частка «б» артыкула 118. Як адміністрацыйна высланы ён, відавочна, патрапляў пад дзеянне часткі «а». Асуджаны абскардзіў прысуд у Вярхоўны суд БССР. Але — сабе на бяду.

15 снежня касацыйная калегія Вярхоўнага суда БССР у складзе старшыні пасяджэння Безбарда і членаў Белкінд і Бімбат разгледзела справу Сандовіча і знайшла, што суд першай інстанцыі прызначыў меру пакарання не ў адпаведнасці з артыкулам 118б КК БССР. Апрача таго, суд першай інстанцыі не высветліў, на колькі быў «асуджаны» да гэтага прысуду падсудны і колькі ён адбыў. Касацыйная калегія Вярхоўнага суда вынесла азначэнне, што прысуд суда першай інстанцыі ад 4 снежня 1934 года падлягае адмене, а справа — накіраванню на разгляд у той самы суд у іншым складзе. Мера стрымання Пятру Сандовічу пакідалася ранейшая — утрыманне пад вартай.

І вось тут — заўвага. Высветліць, на колькі быў «асуджаны» ў 1930 годзе Пётра Сандовіч, было немагчыма. Бо раскулачаных не асуджалі, а высылалі ў адміністрацыйным парадку. Высылалі не на нейкі тэрмін, а бестэрміновa, да прыняцця іншага рашэння пра лёс высланых. Але суддзі як Вярхоўнага, так і «народнага» суда ўпарта рабілі выгляд, што гэтага не ведалі (паўстае пытанне пра іх кваліфікацыю).

Паўторна справа Пятра Сандовіча разглядалася судом 3 участка г.Менска 4 студзеня 1935 года (суддзя Руды, члены засядацелі Баранаў і Багдановіч, сакратар Стрыгун, без удзела пракурора і абаронцы). У прысудзе запісана: «Адносна таго, на колькі гадоў быў выслан падвіноўны Сандовіч, то апошні суду не сказаў, тлумачачы тым, што ён не ведае». Зрабіць запыт у орган, які прыняў рашэнне аб высылцы Сандовіча, было, відаць, вышэй за кваліфікацыю суддзі Рудога. Дый нашто губляць каштоўны час «народнага» суда на нейкага «кулака»? Пятра Сандовіча асудзілі паводле артыкулу 118 КК БССР да двух гадоў пазбаўлення волі, то бок далі яму найбольшае магчымае пакаранне па частцы «б» гэтага артыкула.

Успаміны беларускіх раскулачаных, якія ўцяклі з месца высылкі, апублікаваў у кнізе «Побеги из ада» (2003) Андрэй Заерка. Яны даюць канкрэтнае ўяўленне пра ўмовы жыцця высланых (у тым ліку і менавіта ў Чардынскім раёне) і пра тое, якімі шляхамі ўцякалі з Урала. Многія людзі, чые лёсы фігуруюць у кнізе «Побеги из ада», былі пасля ўцёкаў арыштаваныя. Выходзіць, цэлая катэгорыя рэпрэсаваных — асуджаныя за ўцёкі.

Ані ў адкрытай базе дадзеных «Ахвяры палітычнага тэрору ў СССР», ані ў базе дадзеных «Неабгрунтавана рэпрэсаваныя грамадзяне Беларусі» звестак пра Пятра Сандовіча няма. Гэта значыць, што ён не рэабілітаваны не толькі па прысудзе 1935 года, але і ў справе адміністрацыйнай высылкі 1930 года. Што, у сваю чаргу, паказвае, наколькі незавершаны ў Беларусі працэс рэабілітацыі. Застаюцца нерэабілітаванымі тыя рэпрэсаваныя, хто ўцёк з месца ссылкі ці зняволення і потым быў асуджаны па артыкуле 118 КК БССР.

Але здзіўляе іншае: выяўляецца, што рэабілітаваны не ўсе адміністрацыйна высланыя, хаця па заканадаўстве Беларусі ўсе яны падлягалі рэабілітацыі. Пры гэтым афіцыйна працэс рэабілітацыі ў Беларусі быў завершаны ў 1998 годзе.

Пётру Сандовіча неабходна рэабілітаваць, як і даведацца больш пра яго жыццёвы шлях. Рэдакцыя «Новага Часу» просіць звязацца з ёй сваякоў ці іншых людзей, якія што-небудзь ведаюць пра лёс гэтага чалавека.

***P.S.: У той час, як друкаваўся нумар, аўтар гэтага артыкула быў вызвалены з СІЗА. Ён адбываў 14 сутак паводле артыкула 17.1 (дробнае хуліганства). Родныя, сябры і ўсе неабыякавыя да лёсу затрыманых да і пасля Маршу недармаедаў у Мінску 15 сакавіка, а таксама асуджаных на суткі, абвясцілі адкрыты збор у дапамогу арыштаваным, які распачаўся ў офісе Беларускай партыі «Зялёныя». Уладзімір Валодзін і іншыя, былі затрыманы 24 сакавіка ў офісе БПЗ пры зборы гэтай дапамогі.***

# Этнастыль: не толькі арнамент

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**Не абавязкова звяртацца да арнаменту, каб апрануцца ў этнастылі. Ёсць шмат варыянтаў сучаснага адзення, акрамя вышымаек, лічыць старшыня «Студэнцкага этнаграфічнага таварыства» Ганна Сілівончык.**

Да народнага адзення можна апеляваць не толькі праз арнамент, але і праз крой, сілуэт, матэрыял, колеры, тэхнікі вырабу, логіку пачынкі рэчаў.

На офісе «Студэнцкага этнаграфічнага таварыства» прайшла лекцыя Ганны Сілівончык «Сучаснае адзенне ў ЭТНАстылі». Пасля ініцыятывы «Арт-сядзібы» па вырабе «вышымаек» (саколак з прынтамі ў выглядзе беларускіх традыцыйных геаметрычных узораў) у 2014 годзе геаметрычны арнамент стаў трывалай часткай беларускай масавай культуры. Але «этнічны лук» можна стварыць не толькі праз выкарыстанне арнаменту.

Самы просты шлях — спалучаць старыя рэчы, што добра захаваліся, з сучаснымі, альбо рабіць копіі з аўтэнтыкі і дадаваць іх да свайго гардэробу. Хусты ў кветкі і краткі, буйныя пацеркі, пульсэткі, фартухі і камізэлькі, высокія боты, падцяжкі, картузы, вязаныя рэчы ўжо самі сабой асацыююцца з этнікай, ствараюць адпаведны вобраз. Каб яго ўзмацніць, можна выкарыстоўваць шэраг прыёмаў падчас вырабу адзення.

Канструкцыя, крой традыцыйнай вопраткі добра спалучаюцца з сучаснымі тканінамі. Зрабіць такую рэч можа чалавек без адпаведнага вопыту: падкрайное адзенне з'явілася ў беларускіх сялян, верагодна, толькі ў XIX стагоддзі (гарсэты, верхняя вопратка, галаўныя ўборы), а да таго любая рэч шылася з простакутных кавалкаў тканіны.

Можа быць наадварот: крой сучасны, а тканіна будзе адсылаць у мінулае. Еўрапейцы ад веку карысталіся льном, воўнай і канаплямі. Шоўк і аксаміт трапілі з Усходу толькі ў познім Сярэднявеччы і выкарыстоўваліся пераважна вышэйшым саслоўем. Беларускія сяляне сталі шыць з гэтых дарагіх тканін толькі ў XIX стагоддзі, звычайна ў спалучэнні з матэрыялам хатняга вырабу. І гэта, дарэчы, яшчэ адзін прыём, што можа прыдацца ў сучасным гардэробе: спалучэнне рознафактурных тканін. Баваўна з'явілася ў сельскім побыце толькі ў XX стагоддзі, хаця сёння здаецца — куды ж мы без яе. Аграмадны плюс натуральных тканін у тым, што яны прыемныя ў носцы і прыгожа старацца.

Сілуэт традыцыйнага строю — яшчэ адзін параметр, ад якога можна адштурхвацца, фармуючы сучасны гардэроб. Камплектацыя, спосаб нашэння, прапорцыі вопраткі — усё гэта можа адсылаць да народнага касцюма. Адзенне ў этнастылі можа быць свабодным, але прыталеным, неадкрытым, пэўнай даўжыні (калі размова пра жаночую спадніцу — то вельмі доўгая ці да сярэдзіны лыткі). Мастацтвазнаўца Марыя Вінікава распавядае, што жыхары беларускай вёскі XIX стагоддзя маглі адрозніць «чужога» здалёк, толькі па сілуэце, яшчэ не бачачы ні дэталей адзення, ні твару.







Асноўныя колеры, характэрныя для беларускага традыцыйнага строю, — белы, чырвоны, чорны, шэры, карычневы — тыя, што можна было здабыць з натуральных фарбавальнікаў у нашых прыродных умовах. У канцы XIX стагоддзя з'явіліся анілінавыя фарбавальнікі, што разам з фабрычнымі тканінамі прынеслі ў касцюм пярэстасць, яркасць і кантрастнасць. Напрыклад, пастэльных адценняў, акрамя шэрага, у беларускім традыцыйным строі не знойдзеш. Таму пэўныя колеры і іх спалучэнні таксама надаюць вопратцы «этнічнасць».

Што да ўзораў, то перш за ўсё гэта краткі і палоскі (абумоўлены тэхналогіяй стварэння тканіны), пазней — пераход ад геаметрычнага да расліннага арнаменту ў жакардавым ткацтве, набойцы, вышыўцы гладдзю.

Тэхнікі і дэкаратыўныя прыёмы, якія выкарыстоўваюцца ў народным адзенні, прыдатныя і для сучаснай вопраткі (розныя ткацкія перапляценні, вышыўка, вязанне, пэчворк, набіванка, складкі, дэкаратыўныя швы, махры, валянне, аздабленне рознакаляровымі трохкутнічкамі з тканіны і тасьмой, каляровыя падкладкі, адстрочкі, кантрасныя абшыўка, петлі і гузікі).

Традыцыйнае адзенне вельмі экалагічнае. Не толькі дзякуючы натуральнасці тканін і эканоміі матэрыялу праз простакутны крой. Старыя рэчы не выкідаліся, а чыніліся. Сёння мы можам выкарыстаць традыцыйную логіку рэстаўрацыі, пачынкі вопраткі. Напрыклад, што мы робім, калі ўтвараецца дзірка? Імкнёмся яе закрыць кавалкам тканіны максімальна блізкага адцення. І ўсё роўна часцей за ўсё «не трапляем». А ў традыцыйнай логіцы лапік, наадварот, можа моцна розніцца ад асноўнага колеру і стаць дэкаратыўным элементам. Тое ж самае з гузікамі.

Ганна Сілівончык раіць і тым, хто шые для сябе, і тым, хто на продаж, глядзець як мага больш прыкладаў традыцыйнага адзення розных народаў, не спыняцца толькі на выкарыстанні арнаменту, а калі ўжо абыгрываць яго, то не шляхам простага налеплівання без сувязі з формай рэчы. І не абмяжоўваць сваю фантазію, шукаць новыя шляхі і падыходы да інтэрпрэтацыі традыцыйнага адзення ў сучаснасці.





Ілюстрацыі падабраныя Ганнай Сілівончык



## Шаноўныя чытачы!

**Кожную суботу жыхары Мінска і Мінскай вобласці змогуць убачыць газету «Новы Час» у бліжэйшым да дому шапіку «Белсаюздруку».**

**Як абяцае кіраўніцтва РУП «Белсаюздрук», газету «Новы Час» можна будзе набыць практычна ў кожнай гандлёвай кропцы Мінска і вобласці.**

**Мы заклікаем нашых чытачоў праўдзіваць гэту інфармацыю і паведамляць у рэдакцыю пра адсутнасць газеты ў продажы.**

**Рэдакцыя «Новага Часу» вельмі спадзяецца на вашу шчырую падтрымку!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова №333

Падпісана да друку 07.04.2017. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.